ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ
ГАЗЕТА

# Культура

№ 46 (359)
5 — 11 снежня
1998 г.
КОШТ
6000 РУБЛЁЎ

Галоўная дэкларацыя свету — юбілярка! Стар. 2

Стар. 12

“Тытанік” аўскія напругі кінапракату Стар. 3




Стар. 6, 11




Стар. 7—10
МАЛПА:
“Пралескі”
“Радыё-Рокс”
“Вундэркінды” і інш.

Дык хто ж забіў Пэна? Стар. 15

Малюнкі з акопаў Стар. 14

Стар. 16
Кніга — страва для інтэлекту

Стар. 13
Аўтографы Смактуноўскага і “джэнтльменаў з шоу”













## НЕ ЗМЯРЗАЙ, ПРЫЙДЗЕ МАЙ, І СМУТАК ВАШ ПРАГОНІЦЬ “ТРАЕЦКІ КІРМАШ”

Калаж Наталлі ОВАД

Траецкае прадмесце — цудоўны куток Мінска, напамін пра старажытнасць нашай сталіцы. Гэта месца ведаюць усе мінчане, наведваюць шматлікія госці сталіцы.

Аднак, нягледзячы на папулярнасць, Траецкае прадмесце выклікае замілаванне толькі знешнім падабенствам з колішнім старым Мінскам і толькі ў невялікай ступені выклікае асацыяцыі са старадаўнімі культурнымі традыцыямі Беларусі. На жаль, дворыкі і вулкі не дыхаюць тым актыўным гарадскім жыццём, якое віравала тут у мінулых стагоддзях.

І вось, каб напоўніць жыццядзейнасцю сённяшняе Траецкае прадмесце, на нарадзе Беларускага фонду культуры, якая адбылася 27 лістапада, быў зацверджаны праект “Траецкі кірмаш”. Мяркуецца ўздоўж набярэжнай гэтага кутка горада паставіць лёгкія павільёны, дзе будуць працаваць майстры народных рамёстваў, гандляваць сувенірамі і народнымі вырабамі, а на адкрытых пляцоўках завіруе маляўнічае відовішча: тут заўладараць народныя калектывы.

Сапраўды, ці не цікава пагуляць па бруку старога горада, паназіраць за працай каваля, паслухаць аўтэнтычную беларускую музыку?

Кірмаш мае праходзіць штотыдзень з траўня па кастрычнік. Будзе распрацаваны графік, па якім месца ў гандлёвым радзе зоймуць майстры адпаведных рэгіёнаў: раёнаў, абласцей, асобных устаноў. Гэта ўсё дазволіць жыхарам і гасцям сталіцы Беларусі не толькі пераканацца ў шматграннасці народнага мастацтва, яго прыгажосці і адметнасці, але і паспрыяць распаўсюджванню твораў народных майстроў, іх больш шырокай папулярнасці за межамі Беларусі. Што тут казаць: самы каштоўны скарб нашай краіны —”залатыя” рукі людзей.

Праект “Траецкага кірмаша” ўжо ўзгоднены з гарвыканкамам Мінска. Спадзяемся, што рашэнне будзе прынята неўзабаве. Вось тады — растане снег і завіруе ў сталіцы кірмаш!

Наш кар.

# КОЖНЫ ЧАЛАВЕК МАЕ ПРАВА...



**50 гадоў таму, 10 снежня 1948 года, Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый быў прыняты унікальны ў сваім родзе, надзвычайнай палітычнай і маральнай важнасці міжнародны акт — Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. Такім чынам, упершыню ў гісторыі чалавецтва, у гісторыі міжнародных адносін было вызначана кола і зроблены дакладны пералік асноўных правоў і свабод чалавека, якія падлягаюць усеагульнаму захаванню.**

**Можна без перабольшвання сказаць, што з прыняццем Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека міжнародная супольнасць стала ў пэўным — гуманістычным — сэнсе іншай, чым была да гэтага, да 10 снежня 1948 года. Кажучы словамі паэта, гэта адзін з тых дзён у календары, які адзначаюць "белым каменем". Ён таму і абвешчаны Днём правоў чалавека.**

Святкаванне знамянальнай даты з'яўляецца добрай нагодай для таго, каб паглядзець яшчэ раз, што ўяўляе сабой Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, якія правы абвяшчаюцца ў ёй.

Як вядома, Дэкларацыя была распрацавана ў працяг і развіццё Статута ААН, у прыватнасці, тых яго палажэнняў, што выкладзены ў Прэамбуле і артыкуле 1. Цытую: "Мы, народы Аб'яднаных нацый, поўныя рашучасці пазбавіць будучыя пакаленні ад бедстваў вайны, якая двойчы ў нашым жыцці прынесла чалавецтву невыказнае гора, зноў усталяваць веру ў асноўныя правы чалавека, у годнасць і каштоўнасць чалавечай асобы, у раўнапраўе мужчын і жанчын і ў роўнасць правоў вялікіх і малых нацый". Дзяржавы — члены ААН абавязваліся супрацоўнічаць у справе "заахвочвання і развіцця павагі да правоў чалавека і асноўных свабод для ўсіх, без адрознення расы, полу, мовы і рэлігіі".

Такія былі адпраўныя пункты для стварэння Дэкларацыі.

Дэкларацыя складаецца з Прэамбулы і 30 артыкулаў. У Прэамбуле гаворыцца: "Генеральная Асамблея абвяшчае Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека ў якасці задачы, да выканання якой павінны імкнуцца ўсе народы і ўсе дзяржавы з тым, каб кожны чалавек і кожны орган грамадства, пастаянна маючы на ўвазе гэтую Дэкларацыю, імкнуліся шляхам асветы і адукацыі садзейнічаць павазе гэтых правоў і свабод".

Пры фармуляванні артыкулаў Дэкларацыі яе аўтары зыходзілі з таго, што канцэпцыя правоў чалавека ўключае ў сябе два асноўныя паняцці. Першае заключаецца ў тым, што неад'емныя і неадчужальныя правы ўласцівыя чалавеку проста таму, што ён чалавек, што ён індывідуум. Гэта — маральныя правы. Да другога паняцця канцэпцыі правоў чалавека адносяцца юрыдычныя правы, што ўстанаўліваюцца ў адпаведнасці з заканадаўчымі працэсамі, якія маюць месца як на нацыянальным, так і на міжнародным узроўні.

У лік правоў, якія, згодна з Дэкларацыяй, падлягаюць усеагульнай павазе і выкананню, уваходзяць неад'емныя элементарныя правы чалавечай асобы, грамадзянскія і палітычныя, а таксама эканамічныя, сацыяльныя і культурныя правы. З першай групы правоў чалавека Дэкларацыя абвяшчае перш за ўсё права кожнага чалавека на жыццё, свабоду, і асабістую недатыкальнасць (арт.3). Другія палажэнні Дэкларацыі дапаўняюць гэтыя правы. У прыватнасці, адзначаецца, што: ніхто не павінен утрымлівацца ў рабстве або паднявольным стане (арт.4), ніхто не павінен падвяргацца катаванням або жорсткім, бесчалавечным ці прыніжаючым яго годнасць абыходжанню і пакаранню (арт.5), ніхто не можа быць падвергнуты самавольнаму арышту, затрыманню або выгнанню (арт.9).

Дэкларацыя даволі падрабязна пералічвае таксама грамадзянскія і палітычныя правы і свабоды чалавека. Гэта права кожнага на свабоду думкі, сумлення і рэлігіі, на свабоду перакананняў і на свабоднае выяўленне іх, на свабоду мірных сходаў і асацыяцый (арт. 18—20), права кожнага на ўдзел у кіраванні сваёй краінай і ўсеагульнае роўнае выбарчае права пры тайным галасаванні (арт.21), права свабодна перамяшчацца і выбіраць месца жыхарства ў межах кожнай краіны (арт.13), права шукаць сховішча ад праследу (арт.14), права на грамадзянства (арт.15).

Асобную групу правоў складаюць эканамічныя, сацыяльныя і культурныя правы, пад якімі маюцца на ўвазе права на працу, на адпачынак, на належны ўзровень жыцця, на адукацыю і г.д. (арт. 22—27). У Дэкларацыі падкрэсліваецца, што ажыццяўленне гэтых правоў чалавека як члена грамадства неабходна для падтрымання яго годнасці і для свабоднага развіцця яго асобы.

Зазначым, што ў аснове правоў чалавека, пералічаных у Дэкларацыі, ляжыць краевугольным каменем прынцып раўнапраўя. Згодна з дакументам, усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах (арт.1); кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і ўсімі свабодамі, абвешчанымі Дэкларацыяй, без якой-небудзь дыскрымінацыі па прыкмеце расы, колеру скуры, полу, нацыянальнага і сацыяльнага паходжання і г.д. (арт.2); усе людзі роўныя перад законам і маюць права, без усякага адрознення, на роўную абарону закону (арт.7).

Прынятая ў форме рэзалюцыі Генеральнай Асамблеі ААН Дэкларацыя мае рэкамендацыйны характар, не валодае абавязковай юрыдычнай сілай. Але, як паказаў шматгадовы вопыт, яе палажэнні, яе літара і дух маюць вялікі маральна-палітычны аўтарытэт. Яны атрымалі шырокае прызнанне ва ўсім свеце. Цяжка ўявіць яго сёння без гэтага, паўтараем, унікальнага, прасякнутага высокімі гуманістычнымі ідэаламі Міжнароднага акта — Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

**Уладзімір РАВІЧ,**
**палітолаг**










**З камандзіроўкі ў правінцыю**

# МУСІМ ВЫЖЫВАЦЬ

**Асіповічы — горад абласнога падпарадкавання. Таму, так бы мовіць, і ўлады тут дзве — гарадская і раённая. Адпаведна і два аддзелы культуры. Мяне ж найперш цікавіў раённы, бо ў горадзе і так усё навідавоку, усё без асаблівых намаганняў могуць, вобразна кажучы, падаць на спадачку. А вось глыбінка вясковая жыве сваім жыццём, найчасцей па сваіх канонах-законах.**

**Гутарка наша з загадчыкам аддзела культуры райвыканкама Васілём Налівайкам пачалася з таго, што ён адразу адзначыў як станоўчы факт наступнае: больш за 90 працэнтаў культасветработнікаў маюць вышэйшую і незакончаную вышэйшую адукацыю. Здаецца, зусім неблагі паказчык. А ўсяго ў раёне дзейнічаюць 35 клубных устаноў, 35 бібліятэк, 8 музычных школ і школ мастацтваў. Дарэчы, работнікі масавых бібліятэк дадаткова працуюць, лічыце, амаль бясплатна, у школьных бібліятэках. Вядома, гэта вельмі добра і для вучняў, і для настаўнікаў. А для бібліятэкараў?..**

— Неабходна ўлічваць той момант, — працягваў Васіль Налівайка, — што ўсе клубныя ўстановы знаходзяцца на балансе нашага аддзела. Гэта значыць, што тыя ўстановы культуры, якія былі пад ведамствам прафсаюзаў (рабочыя клубы), а таксама сельскіх гаспадарак, перайшлі пад наша крыло. І, у прыватнасці, такія буйныя, як шклозавода (пасёлак Ялізава), радыёперадаючага цэнтра (пасёлак Сасновы), леспрамгаса і іншыя. У студзені гэтага года прынялі на свой баланс Асіповіцкае кінавідэапрадпрыемства. А гэта больш як 30 кінавідэаўстановак.

**— І ўся гэта вялікая культурная гаспадарка патрабуе грошай, ды і, напэўна, немалых.**

— Яно так. Але ж атрымалася, што ўсё скінулі на наш баланс, а грошай належных, шчыра кажучы, не даюць. Бо бюджэт у раёне, і гэта факт, не выконваецца. Таму, каб стабільна ўтрымліваць на балансе такую сетку ўстаноў культуры, мы мусім выжываць за кошт платных паслуг насельніцтву. За 10 месяцаў бягучага года сабралі 1,2 мільярда рублёў. Гэта даходы ад правядзення дыскатэк і гульнятэк, ад арганізацыі калектыўных дзён адпачынку, сямейных святаў, масавых гулянняў, платных курсаў і самадзейных гурткоў. Адразу зазначу, што ўсе ўстановы культуры падрыхтаваны да работы ў зімовых умовах: адрамантаваны ацяпляльныя сістэмы, печы, завезена ў дастатковай колькасці паліва.

**— Наколькі я ведаю, адзін з раённых калектываў атрымаў званне лаўрэата на Першым Рэспубліканскім фестывалі народнага мастацтва "Беларусь — мая песня".**

— І нам тое прыемна, бо сапраўды — духавы аркестр аддзела культуры райвыканкама вельмі прыязна сустракаюць усюды, дзе ён выступае. Калектыву, якім кіруе дырэктар гарадской музычнай школы, выкладчык па класе трубы Сяргей Ашэйчык, па праву нададзена ганаровае званне "народны". Гэта ўжо дзевяты такі калектыў у нашым раёне. Акрамя аркестра хацеў бы назваць яшчэ народны хор ветэранаў вайны і працы раённага цэнтра культуры, які быў лаўрэатам Рэспубліканскага конкурсу "Не старэюць душой ветэраны", фальклорны ансамбль "Вечарынка" Ялізаўскага пасялковага Дома культуры (кіраўнік — выкладчыца мясцовай музычнай школы Джэма Рабава), народны аматарскі тэатр цэнтра культуры (рэжысёр — Надзея Дрозд), народную студыю лозаплецення ў вёсцы Краснае. Дарэчы, два лялечныя тэатры з Асіповіцкага раёна (а ўсяго іх 8) трапілі на абласны агляд-конкурс. А ўвогуле ў нас вялікі патэнцыял для развіцця народнай творчасці.

**— У чым гэта канкрэтна праяўляецца?**

— Пачну з традыцыйнага нашага мерапрыемства — фестывалю "Веснавыя колеры". Ён праходзіць у два туры па зонах. Толькі ў фінале, які адбываецца ў апошнюю нядзелю мая, бяруць удзел каля 30 калектываў з раёна і гасцей з вобласці. Фестываль вельмі насычаны: дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва, народныя промыслы, розныя віды і жанры мастацкай самадзейнасці (харавыя, аркестравыя, тэатральныя калектывы). Пераможцаў заўсёды вельмі цяжка вызначыць.

Яшчэ адно цікавае мерапрыемства — свята народных традыцый "Ліпеньскія шчадроўкі", якое праводзіцца ўжо пяць гадоў і заўсёды ў адзін дзень — 13 студзеня. Мастацкія калектывы выстройваюцца ў канцы вёскі і, кіруючыся да цэнтра, заходзяць у хаты, выконваюць калядныя песні. Затым у вясковым парку, ля Дома культуры, распальваецца вогнішча. У самім ДК калектывы дэманструюць сваё майстэрства, а пераможцы атрымліваюць падарункі.

Прыемна, што менавіта ў нашым раёне, у вёсцы Вяззе, у 1996 годзе адбыўся Міжрэгіянальны фестываль аўтэнтычнага фальклору Беларускага Падняпроўя.

Рэгулярна праводзім фестывалі "Праз творчасць дзяцей — да лепшай будучыні". Месцам правядзення абраны пасёлак Ялізава.

**— А вось што тычыцца музычных школ і школ мастацтваў...**

— Лічу, што са сваімі абавязкамі ў справе выхавання адораных дзяцей і моладзі калектывы выкладчыкаў спраўляюцца добра. Прыклад паказвае гарадская школа мастацтваў, у якой займаецца больш як 500 чалавек. Асабліва вылучаецца тут адзін з лепшых мастацкіх калектываў вобласці — хор, якім кіруе выпускніца Беларускай акадэміі музыкі Вольга Кавалёва. Цяпер удзельнікі хору рыхтуюцца да паездкі ў Кранштат. Заслужаным аўтарытэтам карыстаюцца цымбальны аркестр, дзіцячы харэаграфічны ансамбль.

Цікавыя музычныя калектывы створаны ў Ялізаўскай, Лапіцкай, Дараганаўскай музычных школах.

**— І ўсё ж праблемы існуюць?**

— Скажу шчыра, не крывячы душой: некаторыя кіраўнікі рознага рангу лічаць, што ў нашых установах культуры апошнім часам менш наведнікаў. Таму, маўляў, на гэтую галіну можна накіроўваць менш грашовых сродкаў. Але ж на справе яно не так. І ў бібліятэкі прыходзіць больш насельніцтва, і ў гурткі людзі ідуць з ахвотай, і ўвогуле цягнуцца да народнай творчасці. Вось, напрыклад, возьмем Вязэйскі СДК (дырэктар Мікалай Забаўскі). Тут асноўны ўпор робіцца на прыцягненне ў мастацкую самадзейнасць дзяцей і моладзі. У Пратасевіцкім СДК (дырэктар Соф'я Мароз) вялікая ўвага надаецца вывучэнню мясцовага фальклору, прапагандзе народных святаў, абрадаў.

Вось якраз гэтага не бачаць тыя кіраўнікі, якіх я згадваў вышэй, бо яны папросту не наведваюць шматлюдныя, не пабаюся таго слова, масавыя культурныя мерапрыемствы. Цяпер культура патрабуе яшчэ больш да сябе ўвагі, патрабуе яшчэ больш сродкаў. І абмяжоўваць іх нельга.

**Валерый ШЫХАНЦОЎ,**
**наш спецкар.**

***Пачынаючы з 1991 года глядзельныя залы сталічных кінатэатраў пачалі няўмольна пусцець. Яно і зразумела: рэпертуар "вялікага экрана" мог адпудзіць і не дужа разборлівага гледача. Альтэрнатыўны прагляд відэафільмаў, канешне, страчваў у відовішчнасці, нярэдка азмрочваўся "пірацкай" якасцю набытай касеты, аднак іншага выбару ў аматараў вартага кіно проста не было. Да нядаўняга часу. "Тытанік", што "даплыў"-такі і да Беларусі, з'явіўся для нашай спакутаванай кінагаспадаркі тым выратавальным кругам, які дапамог ёй не толькі ўтрымацца на паверхні, але і абраць новы курс па праведзенні рэпертуарнай палітыкі.***




Пасля распаду Саюза, калі Мінск быў пазбаўлены традыцыйнага штогадовага "падарунка" ў выглядзе 300 новых найменняў фільмаў, кінапракатчыкі, каб неяк аздобіць асірацелы экран, вымушаны былі, асабліва не мудруючы, "браць" тое, што "танна ляжыць". Безумоўна, у большасці сваёй гэта былі далёка не "оскараўскія" фільмы. У выніку ад 13 мільёнаў гледачоў, якія наведалі кінатэатры горада ў 91-ым, летась "застаўся" толькі 1 мільён. За ўвесь гэты тэрмін прыпыніць падзенне і ўзняць планку наведвальнасці хаця б на 1—2 працэнты мінскае прадпрыемства "Кінавідэапракат" пры ўсім жаданні так і не здолела.

Пэўна ж, немалы час рэпертуарная камісія "Кінавідэапракату" ўзважвала ўсе "за" і "супраць" перад тым як прыняць рашэнне аб набыцці копіі "Тытаніка" за 300 мільёнаў рублёў. Грошы немалыя, і пэўная рызыка тут мела месца, бо на той час сталічны рынак ужо быў пазавальваны "пірацкімі" відэакопіямі гэтага кінахіта, і многія мінчане паспелі іх набыць і прагледзець. Аднак вынікі пракату пераўзышлі ўсе спадзяванні: фільм прынёс каля 6 мільярдаў прыбытку, а агульная колькасць кінагледачоў, у параўнанні з мінулым годам, павялічылася ў 2,3 разы. Калі скончылася "галавакружэнне ад поспехаў", для работнікаў прадпрыемства стала відавочным, што толькі новыя, супер-відовішчныя і, як правіла, амерыканскія карціны, паўнацэнна ўспрыняць якія магчыма толькі на вялікім экране, змогуць вярнуць гледача ў кінатэатры і, адпаведна, не толькі акупляцца, але і прыносіць пэўныя дывідэнды, аб чым раней і гаворкі не было.

Але, з другога боку, на сённяшні дзень копія касавага фільма на маскоўскім кінарынку, дзе, галоўным чынам, іх і набываюць беларускія кінапракатчыкі, каштуе даволі дорага — як мінімум 1000 умоўных адзінак. "Рынак ёсць рынак, — разважае дырэктар прадпрыемства Васіль Коктыш. — Зараз цэны адны, заўтра — іншыя. А растуць яны, вядома, угору. Тут вельмі важна, што мы падтрымліваем асабістыя добрыя стасункі з тамтэйшымі фірмамі-рэалізатарамі. Можна сказаць, што ніводная з іх сёння не імкнецца зарабіць на Мінску: яны разумеюць нашы праблемы. І хаця набыццё новых копій абыходзіцца нам танней, чым тым жа расійскім рэгіёнам, увесь гэты працэс адбываецца з неймавернымі цяжкасцямі".

Варта таксама адзначыць, што апроч аднаўленага рэпертуару, вялікай цікавасцю ў гледачоў карыстаецца і набытая нядаўна ў Германіі самая сучасная гукаўзнаўляючая стэрэасістэма "Долбі", якой абсталяваны кінатэатры "Масква" і "Аўрора". Дарэчы, абышлася навінка ў немалую суму ў валюце, якую выдзеліў для гэтай мэты прадпрыемству Мінскі гарвыканкам. Але ўжо сёння, па словах В.Коктыша, бачна, што акупіць яна сябе не за год, як меркавалася, а значна раней. Напрыклад, касавы збор кінатэатра "Аўрора" толькі за два тыдні эксплуатацыі "Долбі"-сістэмы склаў такую суму, якой раней, у часы заняпаду, немагчыма было дасягнуць і за паўгода. І гэта пры тым, што кошт білета на стэрэавідовішча не перавышае 100 тысяч рублёў, (у Маскве — 20-25 долараў) а набыць копію кінастужкі са спецыяльнай "долбі"-гукадарожкай можна толькі за мяжой і па цане ў 2—3 разы даражэй, чым звычайнага фільма. "Канешне, хацелася б абсталяваць гэтай сістэмай яшчэ некалькі кінатэатраў — і выгада відавочная, і публіка ідзе з задавальненнем, аднак усё ўпіраецца ў фінансы", — адзначыў Васіль Пятровіч.

Што тычыцца саміх будынкаў кінатэатраў, дык многія з іх за доўгія гады бязглядласці аказаліся ў аварыйным стане і павінны былі вось-вось зачыніцца. Асабліва непакой выклікалі "Кастрычнік", "Салют", "Электрон" і зусім яшчэ малады "Бярэсце". Балазе, на сённяшні дзень гэта пагроза прамінула. Як паведаміў В.Коктыш, за кошт уласных сродкаў "Кінавідэапракату" і выдзеленых Мінгарвыканкамам пяці мільярдаў рублёў, а таксама пры дапамозе розных камерцыйных устаноў, якія кінатэатры проста вымушаны былі пусціць пад свой дах, каб неяк выжыць, практычна на ўсіх кінатэатрах праведзены альбо капітальны, альбо касметычны рамонты, у той жа "Аўроры", у прыватнасці, пастаўлены "тэатральныя" велюравыя крэслы. Усяго на аднаўленчыя работы было выдаткавана 15 мільярдаў. Але, як зазначыў мой суразмоўца, каб прывесці матэрыяльна-тэхнічную базу кінатэатраў у належны стан, спатрэбіцца яшчэ багата грошай.

Тая ж праблема дамоклавым мячом вісіць і над кінаапаратурай, якая не мянялася на працягу дзесяцігоддзяў...

"Адно радуе, — кажа В.Коктыш, — што мы яшчэ не згубілі свае кадры. Хаця той жа інжынер у нашай гаспадарцы атрымлівае проста смешную зарплату. Як, зрэшты, і любы сярэдні работнік культуры. За кошт кадраў, па вялікім рахунку, мы і трымаемся".

Усё-ткі распачатае адраджэнне айчыннай кінасеткі надае аптымізму.

**Алесь ФІЛІПОВІЧ**

**Кампетэнтна**

# ЯК НАБЛІЗІЦЦА ДА МЭТЫ? ПРАЗ КОНКУРС!

Беларуская акадэмія мастацтваў — адзіная ў краіне вышэйшая мастацкая навучальная ўстанова. Гэта накладвае на яе дзейнасць пэўную ступень адказнасці. Па сутнасці, на Акадэмію ўскладзены абавязкі па фарміраванні кадраў беларускага мастацтва. Факт відавочны, бо ВНУ рыхтуе для рэспублікі мастакоў-прафесіяналаў у галіне станковага і манументальнага жывапісу, графікі, скульптуры, сцэнаграфіі, дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, мастацтвазнаўства.

Штогод Акадэмія набірае на першы курс па 30—40 чалавек. Лічба, што і казаць, невялікая, калі параўноўваць яе з колькасцю прыёму ў іншыя навучальныя ўстановы. Аб'ёмы набору ўстанаўліваліся на працягу дзесяцігоддзяў. Сёння, калі выпускнікі Акадэміі аказваюцца запатрабаванымі ў пераважнай большасці ў межах нашай краіны, наўрад ці ёсць сэнс ісці на павелічэнне гэтых лічбаў. Адзінае, што не тычыцца да сказанага вышэй, — адкрыццё новых спецыяльнасцей і спецыялізацый, у якіх краіна або ўжо мае патрэбу, або хутка будзе мець.

Гэтыя развагі зроблены для пачатку, бо без іх нельга ацаніць тую адказнасць, з якой Акадэмія падыходзіць да адбору будучых студэнтаў. У краіне існуе, на жаль, абмежаваная сетка мастацкіх школ і школ мастацтваў, пры якіх ёсць аддзяленні малюнка і жывапісу. У нас, напрыклад, толькі 24 мастацкія школы. Улічыце таксама, што большасць з іх знаходзіцца ў буйных гарадах. Гэта, па сутнасці, першая ступень у мастацкай падрыхтоўцы, у арыентацыі дзяцей, падлеткаў на прафесійную дзейнасць. Затым ідуць сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы. Перш за ўсё — мастацкія вучэльні. Іх толькі дзве: Мінская мастацкая вучэльня імя А.К.Глебава пры Беларускай акадэміі мастацтваў і Гомельская мастацкая вучэльня. Апошняя адкрыта літаральна год таму, бо раней гэта быў філіял Мінскай мастацкай вучэльні. Пры Акадэміі існуе яшчэ Мінскі мастацкі ліцэй, а дакладней — ліцэйскія класы, размешчаныя ў сярэдняй школе № 26. Трэба назваць таксама і шэраг вучэльняў мастацтва, якія маюць аддзяленні малюнка і жывапісу. Іх таксама не вельмі многа — усяго 4.

Што атрымліваецца, калі ацэньваць прыведзеныя лічбы? Каб паступіць у Акадэмію, трэба мець сур'ёзную падрыхтоўку. Існуе два спосабы, каб наблізіцца да гэтай мэты. Першы — вучоба ў мастацкай школе, затым у вучэльні. Другі — самападрыхтоўка, якая, на жаль, часцей за ўсё вядзе да аматарства. Вось чаму Акадэмія не толькі кантактуе з большасцю пачатковых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў мастацтва і культуры, каб, як кажуць, не толькі адсочваць сітуацыю, але і ў пэўнай ступені ўплываць на працэс падрыхтоўкі мастакоў у сярэдніх спецыяльных навучальных установах. Не ўсе з выпускнікоў вучэльняў працягваюць далейшую адукацыю, частка з іх ідзе на вытворчасць, частка працуе творча самастойна.

У такой сітуацыі надзвычай важнымі з'яўляюцца мастацкія выставы і ў большай ступені — мастацкія конкурсы. Яны дазваляюць убачыць і ацаніць своеасаблівы зрэз мастацка-педагагічнай сітуацыі ў краіне, зразумець, у якім накірунку трэба рухацца, ад чаго адмовіцца, да чаго імкнуцца. Традыцыя мастацкіх конкурсаў з'явілася нядаўна. У чэрвені 1996 года быў праведзены Першы Рэспубліканскі мастацкі конкурс навучэнцаў мастацкіх школ і вучэльняў, у пачатку лістапада 1998 года — другі. Ідэя правядзення мастацкага конкурсу тады ўспрымалася неадназначна. Сумненні былі самыя розныя. Некаторыя нават называлі конкурс "здзекай над дзецьмі". Праўда, Міністэрства культуры ўсё ж такі вырашыла правесці яго. Можна было зразумець прыхільнікаў традыцыйных выстаў. У пэўны час, на падставе адпаведных умоў збіраюцца, а потым дэманструюцца работы. Усё прагназуецца. На першае месца ставілася творчасць, а дакладней, фантазія. Конкурс — зусім іншае. Трэба выканаць работу ў прысутнасці ці пад наглядам журы, што, па сутнасці, з'яўляецца прынцыпова адметнай сістэмай адліку ў ацэнках, бо на першае месца ставіцца школа, ці тое, што засвоена было і застаецца галоўным пры вызначэнні прафесіяналізму будучага мастака. Гэта, аднак, не выключае выканання падчас конкурсу і творчых работ — кампазіцый на адвольную ці зададзеную тэму. У дадзенай сітуацыі ўсё выглядае вельмі проста. Але самае простае і ёсць самае складанае. Бо адразу ўзнікаюць пытанні — як ацэньваць работы 7—10-гадовых дзяцей і 14-16-гадовых падлеткаў, якія могуць быць крытэрыі ацэнак творчых работ, якія віды мастацкай дзейнасці могуць быць прымальнымі: жывапіс, малюнак, скульптура, станковыя творы ці эскізы манументальных і дэкаратыўных работ. Пытанні, пытанні... Тым не менш, конкурс вырашылі праводзіць. Патрабаваліся сродкі, вялікая арганізацыйная падрыхтоўка. Усё гэта было зроблена. Апекавалі конкурс Спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі і Беларускі саюз моладзі, якія выдаткавалі грошы, прадставілі пуцёўкі для адпачынку пераможцам і ўдзельнікам выпрабаванняў.

Сёлета адбыўся другі конкурс. Ён дазволіў выправіць шэраг памылак і пралікаў, што выявіліся пры правядзенні першага. Больш увагі было нададзена першаму туру выпрабаванняў, якія праводзіліся па абласцях, быў адпрацаваны і ўдасканалены змест заданняў, сістэма і крытэрыі ацэнак. Важна было не толькі правесці іспыты, ацаніць работы, але і параўнаць вынікі першага і другога конкурсаў. З гэтай мэтай арганізатары — Міністэрства культуры, Спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, Беларуская акадэмія мастацтваў, наладзілі "круглы стол". Але той факт, што яго тэма — "малюнак у дзіцячай мастацкай школе", літаральна праз некалькі хвілін была скарэктавана ў больш шырокае рэчышча, сведчыць: праблемы дзейнасці мастацкіх школ, мастацкіх вучэльняў, вучэльняў мастацтваў, праблемы методык, узгодненасці патрабаванняў, прынцыпаў не толькі існуюць, але і стаяць вельмі востра.

У рабоце "круглага стала" акрамя дырэктараў, выкладчыкаў школ, вучэльняў узялі ўдзел загадчык кафедры жывапісу Беларускай акадэміі мастацтваў В.Герасімаў, загадчык кафедры мастацкіх дысцыплін Беларускага педагагічнага універсітэта Л.Раманенка, галоўны спецыяліст аддзела навучальных і навукова-даследчых устаноў Міністэрства культуры Р.Кароткін, намеснік дырэктара Мінскага мастацкага ліцэя пры Беларускай акадэміі мастацтваў Я.Саковіч, супрацоўнік лабараторыі метадычнага забеспячэння Беларускага інстытута праблем культуры Л.Баірава.

Сказаць, што конкурс важны і патрэбны, — недастаткова. Гэта відавочна. Ён важны па некалькіх прычынах. На дзяржаўным узроўні адбываецца выяўленне і падтрымка найбольш таленавітай і здольнай моладзі. Дарэчы, гэты аспект добра ўсведамляе Спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, які аказаў значную фінансавую і арганізацыйную падтрымку. Невыпадкова і тое, што журы конкурсу пад началам народнага мастака Беларусі Г.Вашчанкі прыняло рашэнне хадайнічаць перад Саветам фонду аб прызначэнні пераможцам конкурсу стыпендый. Ёсць аргумент і больш прагматычны. Конкурс дае магчымасць выявіць і ацаніць лепшых з лепшых, а значыць у нечым аблегчыць іх далейшы шлях у прафесійнае мастацтва.

Беларускай акадэміяй мастацтваў накіраваны ў Міністэрства культуры прапановы аб уключэнні наступнага, ужо трэцяга конкурсу ў план асноўных мерапрыемстваў. Хацелася б, каб гэта адбылося. Са свайго боку Акадэмія, як і ў папярэдніх конкурсах, можа выступіць у якасці арганізатара і выканаўцы. Дарэчы, ва ўсіх двух конкурсах склад журы фарміраваўся ў пераважнай большасці з выкладчыкаў Акадэміі. Напрыклад, у другім прымалі ўдзел В.Герасімаў, В.Альшэўскі, аўтар гэтых радкоў, а старшынёй яго быў прызначаны Г.Вашчанка. Трэба было бачыць вочы юных мастакоў, якія прымалі з рук славутага майстра дыпломы пераможцаў, грашовыя прэміі. Такое будзе помніцца доўга, а магчыма, стане важным імпульсам у далейшым фарміраванні маладых талентаў.

**Барыс ЛАЗУКА,**
**прарэктар па навукова-творчай рабоце Беларускай акадэміі мастацтваў, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт.**

# Адраджэнне як дражэ: без паперкі ў "негліжэ"

Існуе ў асяроддзі навукоўцаў сенсацыйная тэорыя, паводле якой вяртання да заваёў антычнасці не было. Бо не было самой антычнасці. Маўляў, яна была "прыдумана" пазней: як з-за памылак пры расшыфроўцы і перакладзе манускрыптаў, што на самой справе належалі эпохе Рэнесансу, так і з-за жадання ўявіць культуру яшчэ больш старажытнай, дзеля чаго і перанеслі частку Адраджэння на колькі стагоддзяў назад.

Фестываль "Адраджэнне Беларускай капэлы" не падпадае пад гэту "тэорыю пераносаў", бо паўтараецца штогод вось ужо восьмы раз запар. Але ж былі і там выпадкі, калі ці то з-за спешкі пры складанні праграмак, ці то з-за жадання ўявіць беларускую культуру яшчэ больш старажытнай не надзваўся аўтар сучаснай апрацоўкі, з-за чаго твор нібыта выдаваўся за арыгінал.

VIII фестываль "Адраджэння" змог пазбегнуць гэтых недарэчнасцей. Ён складаўся з трох камерных канцэртаў, якія ахаплівалі опусы Станіслава Манюшкі, Восіпа Казлоўскага, Канстанціна Горскага, а таксама шматлікія сучасныя беларускія творы, значная частка якіх прысвячалася Адаму Міцкевічу.

Рупліўцы "Беларускай капэлы" на чале з Віктарам Скарабагатавым выступалі не толькі ў ролі даследчыкаў і прапагандыстаў забытых твораў даўніны, але і актыўна садзейнічалі сучаснаму кампазітарскаму працэсу. Узяўшы на сябе функцыю "дзяржзаказу", яны прапанавалі кампазітарам вершы А.Міцкевіча ў перакладзе на беларускую, а таксама вершы ў яго гонар для напісання рамансаў і іншых музычных твораў. Многія адгукнуліся — і ўзнік канцэрт "Сляза вялікага Адама".

Падобным чынам "планавалася" прэм'ера хронікі мінуўшчыны "Спевы даўнейшых ліцвіноў" Вячаслава Кузняцова — з той толькі розніцай, што кампазітарскі "адрасат" быў абраны адразу: В.Кузняцоў даўно зарэкамендаваў сябе цудоўным майстрам стылізацыі, які спалучае неакласічныя звароты з авангардысцкімі вышукамі. З цыкла балад Яна Чачота, перакладзеных Уладзімірам Мархелем, ён абраў 10 і на іх аснове стварыў партытуру для салістаў, мужчынскага хору і ансамбля ўдарных. Менавіта гэты склад адпавядае нашым уяўленням пра XIII-XIV стагоддзі, углыб якіх і вядзе нас музычна-пазтычны роспавед.

Ды ўсё ж, паклаўшы руку на сэрца, трэба зазначыць, што прэм'ерны паказ гэтай буйной працы мог бы стацца куды больш шыкоўнай прэзентацыяй. Тым больш, што канцэртнага гучання твор чакаў літаральна год — "дробязь" у параўнанні з нашай практыкай чакання прэм'ер (асабліва сцэнічных) на працягу дзесяцігоддзяў, але і дастатковы час для ідэальнага ўвасаблення. Справа не толькі ў некаторых выканальніцкіх хібах: за год, што мінуў пасля радыёзапісу твора, амаль цалкам змяніўся склад хору "Унія" і ансамбля ўдарных. Да таго ж, музыканты мелі ўсяго адну сумесную рэпетыцыю, а за гадзіну да канцэрта прыйшлося замяняць прадугледжаныя аўтарам літаўры на іншыя інструменты — тамы, бо тыя не змяшчаліся ў рафік, якім аўтабаза замяніла заказаны мікрааўтобус. Вось вам і прэм'ерная "хроніка"! А так хацелася б, каб гэты твор атрымаў не толькі больш шырокае прызнанне, чым горстка слухачоў у Доме дружбы, але і ... тэатральна-відовішчнае ўвасабленне. Бо і сам жанр, і яго драматургічнае рашэнне нібыта створаны для рэжысёрскага прачытання.

Пакуль жа — прэм'ера мінула, фестываль прайшоў ціха і надта камерна: нават фрагменты з сімфанічных твораў выконваліся пад чуйны раяль Ганны Каржанеўскай. Яно, можа, і лепей, бо інакш выканаўцаў было б болей, чым слухачоў, апантаных беларускай даўніной і сучаснасцю. Нічога не зробіш: ідэя Адраджэння нацыянальнай культуры ўжо не самая "модная". І калі раней ён, здаралася, перашкаджала сенсацыйнае захапленне нашай старажытнасцю — апрыёры "лепшай у свеце", дык зараз перашкаджае — нейкая абыякавасць.

Яно і зразумела: раней мы былі ў стане зрабіць сабе свята, падсаладзіўшы душу шакаладнай цукеркай у хрусткай прыгожай паперцы, а зараз можам размічваць хіба што на дражэ без усякіх папяровых упрыгожванняў. Ды ўсё ж грашовая праблема — не самая галоўная. Няўжо мы і сапраўды не ў стане любіць сваю нацыянальную культуру (ды хаця б не любіць — проста ведаць!) без прыгожай фальгі і саладзенькага фальшу?

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

# Між Літвой і Беларуссю

Каго сёння здзівіш навуковай канферэнцыяй? Хіба што самім навукоўцаў — дый то пры ўмове, што буйная зорка з якой-небудзь даследчыцкай галіны возьме ў ёй удзел і прапануе прынцыпова новы метадалагічны падыход да звыклых рэчаў. А калі ўся канферэнцыя прысвечана метадалогіі?

Міжнародная навуковая канферэнцыя, што наладжана Міністэрствам культуры, Акадэміяй музыкі, Інстытутам праблем культуры і Акадэміяй мастацтваў нашай краіны, называецца менавіта так: "Мастацкая адукацыя XXI стагоддзя: Пераемнасць. Метадалогія. Дыдактыка." Яна праходзіць з 3 па 5 снежня і ўключае самыя разнастайныя мерапрыемствы: уласна даклады выступоўцаў, сярод якіх вядучыя прадстаўнікі вышэйшых школ мастацтва Масквы, Санкт-Пецярбурга, Вільнюса, Гародні, Магілёва, а таксама адкрытыя ўрокі, дыпломны спектакль "Туцці-Фруцці" студэнтаў БелАМ, персанальную выставу мастака, прафесара Паўла Семчанкі і яго вучняў "Лінія доўжыцца", прэзентацыю "Тэматычнага слоўніка музычных рэмарак", падрыхтаванага Святланай Шчукінай.

Адметным стаўся канцэрт "Музычныя прэм'еры", дзе прагучалі творы студэнтаў-кампазітараў У.Іофэ, А.Сідзько, А.Кручкова, А.Урублеўскай, А.Амяльчук, М.Круглага, А.Даньшовай, В.Кісценя і іншых. Але галоўным днём, які мае вялікую гістарычную значнасць, можа лічыцца ўчарашні: 4 снежня на адкрытым пасяджэнні Савета Беларускай акадэміі музыкі адбылося ўрачыстае падпісанне пагаднення аб творчым супрацоўніцтве паміж Беларускай і Літоўскай акадэміямі музыкі. З нашага боку пагадненне падпісаў народны артыст Беларусі, прафесар М.Казінец, з літоўскага — доктар мастацтвазнаўства, прафесар Ю.Антанавічус.

**Наш кар.**

# Соль і слодыч фестывалю Салярцінскага

Дзесяць гадоў таму імя бліскучага музыказнаўцы Івана Салярцінскага было вядома толькі спецыялістам. Сёння на Беларусі яго ведаюць усе, хто цікавіцца мастацтвам: дзякуючы знакамітаму музычнаму фестывалю, што носіць яго імя.

Ідэя фестывалю — адраджэнне вялікіх культурных традыцый Віцебска. Салярцінскі жыў і працаваў у Віцебску ў 20-ыя гады, калі гэты горад прыцягнуў усе лепшыя мастацкія сілы паслярэвалюцыйнай Расіі. Яго памятаюць не толькі як навукоўца і выкладчыка, але і як цудоўнага лектара, майстра жанру вуснага расказа. Мабыць, таму віцебскі фэст адметны не толькі багатымі канцэртнымі праграмамі, але і шматгоднімі навуковымі чытаннямі, якія праходзяць у "Музычнай гасцёўні". Сёлета іх тэмай стане "Віцебскі рэнесанс пачатку XX стагоддзя". А ў самой гасцёўні будзе зроблена выстава, прысвечаная 10-годдзю фестывалю.

У мастацкім музеі адкрыецца выстава "С.Рахманінаў — Ф.Шаляпін. Два жыцця — адзін лёс", а таксама імпрэза Віцебскага абласнога аддзялення Беларускага Саюза мастакоў "Музыка муз".

У межах фестывалю адбудзецца аўтарскі канцэрт народнага артыста Беларусі, кампазітара Анатоля Багатырова — ураджэнца Віцебска, канцэрт, прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Душой фестывалю па-ранейшаму застаецца ансамбль салістаў "Класік-Авангард" і яго кіраўнік Уладзімір Байдаў. Сярод знаных замежных гасцей — польскі кампазітар Мацей Малецкі, піяніст Іван Сакалоў (Масква—Кёльн), лаўрэат Міжнароднага конкурсу імя П.Чайкоўскага, скрыпач Сяргей Стадлер, кампазітар Дзмітрый Талстой — сын пісьменніка Аляксея Талстога, "Санкт-Пецярбург-Трыо" і многія іншыя музыканты.

І ўсё гэта — у Віцебску з 9 па 16 снежня.

**Наш кар.**

## Алекс Шон — госць Драгічына

Нядаўна госцем нашай гарадской моладзі быў Алег Шусцікаў (сцэнічнае прозвішча — Алекс Шон). Дарэчы, гэта было яго другое выступленне ў Драгічыне. Артыст валодае добрым голасам, у выніку чаго стварыў сабе няўдрэнны імідж. Ён спявае песні такіх папулярных і зараз груп, як "Бітлз", "Скарпіёнс" і іншыя. Як сказаў сам Алег, яму ў свой час даводзілася выступаць з групай "Скарпіёнс" на адной сцэнічнай пляцоўцы, што вельмі прэстыжна і адказна.

Сустрэча з гэтым знакамітым артыстам падарыла драгічынскай моладзі прыўзняты настрой і пакінула добрае ўражанне.

**Міхаіл МАЦКЕВІЧ**
*г.Драгічын*

# Кветкі і партрэты Юрыя Корхава

5 снежня ў холе сталічнага кінатэатра "Кастрычнік" адкрываецца персанальная выстава твораў Юрыя Корхава "Кветкі і партрэты". На выставе прадстаўлены карціны, напісаныя за апошнія два гады.

Юрый Корхаў нарадзіўся ў Мінску ў 1962 годзе. Вучыўся ў Мінскай дзіцячай мастацкай школе. У 1984 годзе скончыў мастацка-прамысловы факультэт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Служыў у войску, працаваў на Мінскім гадзіннікавым заводзе дызайнерам. З 1987 года працуе мастаком у кінатэатры "Кастрычнік". Болей двух дзесяткаў яго работ знаходзяцца ў прыватных калекцыях у ЗША, Германіі, Францыі. Працуе таксама ў галіне графічнага і прамысловага дызайну, рэкламы. Сваім настаўнікам лічыць Уладзіміра Ткачэнку.

Уменне паказаць асобныя бакі навакольнага жыцця іранічна, але без сарказму, вылучыць у ім нязвычайнае прыцягваюць да яго карцін. Мастак дае гледачу магчымасць пашыраць дамыслы, разгледзець штосьці сваё, але не заігрывае з ім, не апускаецца да ўзроўню звычайнага абывацеля.

**Ул. інф.**

# "Я з вечна вандроўных..."



30 лістапада ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася выстава "Я з вечна вандроўных...", прысвечаная Язэпу Драздовічу, беларускаму жывапісцу, графіку, скульптару, збіральніку фальклору, археолагу, пісьменніку і настаўніку.

Распавядаючы пра жыццё і творчасць Я.Драздовіча, стваральнікі выставы (мастак Генадзь Чысты, навуковыя супрацоўнікі Н.Калымага, Т.Воранава, І.Пахоменка) глядзяць на яго як на чалавека сусвету. Вандроўнуы па беларускай зямлі, мастак бачыў сябе і сваю Радзіму, Беларусь, часткай сусвету. Ён быў вялікі летуценнік. Беларусь, Месяц, Марс для яго ўсяго толькі часткі адной вялікай светабудовы.

Атрымаўшы прафесійную мастацкую адукацыю ў Віленскай рысавальнай школе прафесара жывапісу І.Трутнёва, Язэп Драздовіч праз усё жыццё пранёс свабоду самавыяўлення. Яго творчасць мае адметны характар. Яна унікальная і традыцыйная, наіўная і мудрая, рэалістычная і сімвалічная.

**Ул. інф.**

# Былы "андэграўнд"

У выставачнай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва працуе выстава "Майстэрня мастака" з калекцыі Андрэя Плясанава.

Андрэй Плясанаў нарадзіўся ў Мінску ў 1948 годзе. У 1980 годзе скончыў аддзяленне рэжысуры Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Жывапісам займаецца з 1964 года. Маляваў спачатку для сябе на кухні, з 1986 года пачаў зарабляць мастацтвам на жыццё.

На выставе да 110-годдзя К.Малевіча маскоўская мастацкая крытыка назвала А. Плясанава "першым з вядомых супрэматыстаў сучаснасці". Асноўнай тэмай сваёй творчасці лічыць дэвіз —"Ад множства да адзінства, ад адзінства да множства". Мастак і калекцыянер бачыць свет створаным з множства дэталей, якія складаюць адзінае цэлае.

Сам ён спрабаваў сябе ў розных стылях. "Я, ідучы ад П.Філонава, К.Малевіча, В.Кандзінкага, раблю і пакутую, пакутую і раблю", — кажа А.Плясанаў, які, дарэчы, з'яўляўся адным з арганізатараў аб'яднання мастакоў "Форма".

Яго першая за мяжой персанальная выстава прайшла ў Варшаве ў 1987 г. Экспазіцыі яго прац бачылі таксама ў Дармштаце і Эсэне (Германія), Санцьяга (Чылі).

З І курса БДТМІ мастак збірае сяброўскія падарункі. У 1987 годзе ён прапанаваў знаёмым тэму "Майстэрня мастака". Разам з агульнай тэмай аб'ядноўвае калекцыю і агульны памер — 60х45 (памеры "хрушчоўкі"). Першым у калекцыі стаў твор мастака кіно А.Чартовіча — выпадкова ў гэтых суадносінах ён зрабіў партрэт жонкі. У серыю ўваходзіць каля 80-ці твораў 70-ці аўтараў. У сакавіку 1987 года першая выстава "Майстэрня мастака" адкрылася ў Рэспубліканскім Палацы мастацтва. У гісторы Беларусі А.Плясанаў першым выставіў альтэрнатыўнае мастацтва, пасля чаго мастакам нетрадыцыйных стыляў дазволілі экспанаваць свае творы.

У яго калекцыі ёсць прадстаўнікі розных стылявых накірункаў мастацтва: абстракцыяністы, сюррэалісты, экспрэсіяністы і інш. Андрэй працягвае калекцыяніраваць карціны і зараз збірае працы на тэму "Ню".

Дадзеная выстава ў пэўнай ступені адпавядае канцэпцыі Музея сучаснага выяўленчага мастацтва ў сэнсе экспанавання і збірання лепшага з усіх напрамкаў беларускага мастацтва. Наведнікам прапануецца адчуць дух 80-х гадоў і пазнаёміцца з шэрагам вядомых у былым "андэграўндзе" імёнаў.

Выстава будзе экспанавацца да 8 снежня 1998 г.

**Ул. інф.**

# З'езд мастакоў завяршыў работу... Што далей?

26 лістапада скончыў сваю работу чарговы, XVI з'езд мастакоў Беларусі. Дэлегаты заслухалі і абмеркавалі справаздачны даклад старшыні Беларускага Саюза мастакоў Генадзя Буралкіна, а таксама даклад старшыні рэвізійнай камісіі Леаніда Данеліі і садаклад Кацярыны Паплаўскай.

Праца з'езда праходзіла ў параметрах не столькі творчых, колькі арганізацыйна-гаспадарчых, што, безумоўна, наклала свой адбітак на ўсю яго атмасферу. З майго пункта гледжання, асноўныя творчыя пытанні: хто мы, мастакі, сёння? куды ідзем? якія сучасныя крытэрыі ацэнак мастацкіх з'яў у новых сацыяльна-эканамічных умовах? — так і не былі дастаткова прааналізаваны ні мастацтвазнаўцамі, ні самімі мастакамі. Аб'ектыўна кажучы, на гэтыя пытанні ў адведзеным рэгламентам часе (да пяці хвілін) ніхто, па сутнасці, адказаць і не мог.

Напэўна, прыйшоў час склікаць спецыяльную творчую канферэнцыю членаў БСМ і маладых творцаў ды і пагаварыць пра тое, куды і як ідзе сёння наша нацыянальнае выяўленчае мастацтва.

Былі прыняты некаторыя папраўкі да статута Саюза мастакоў, у тым ліку датычныя структуры Саюза. Цяпер кіруючым органам БСМ паміж з'ездамі будзе Рада Беларускага Саюза мастакоў, а выканаўча-распарадчым і каардынацыйным органам паміж пасяджэннямі Рады стане яе прэзідыум. Выканаўчым органам Саюза з'явіцца сакратарыят, які будзе арганізоўваць і накіроўваць творчую, грамадскую і гаспадарчую дзейнасць БСМ — паміж пасяджэннямі рады і яе прэзідыума.

Дэлегатамі з'езда была прынята адпаведная рэзалюцыя.

У выніку тайнага галасавання старшынёй БСМ зноў абраны Генадзь Буралкін, а старшынёй рэвізійнай камісіі — Вольга Санкова.

**Наш кар.**

**P.S.** У № 44 "Культуры" ў хроніцы рубрыкі "Мастыхін" на стар. 9 трэба чытаць: абраныя старшынямі секцыі графікі — Уладзімір Лукашык, аб'яднання "Верасень" — Ілля Немагай.

Літаральна напярэдадні XVI з'езда мастакоў на паўторным выбарчым сходзе Брэсцкай абласной арганізацыі БСМ яе старшынёй быў абраны Міхаіл Канькоў.

# “БУДЗЕ БОЛЬШ МУЗЫКІ ЛУНАЦЬ НАД БАРАНАВІЧАМІ...”

**(Уражанні падчас адкрыцця новага будынка ДМШ № 1)**

Я прыйшоў за чатыры гадзіны да ўрачыстасцяў. Разам з сакратаром вучэбнай часткі Тацццянай Міклашэвіч мы перагледзелі архіў. Школе 58 гадоў, але першыя дакументы не захаваліся. Я трымаю былы школьны сшытак, што стаў кнігай загадаў, і чытаю загад № 1 ад 8 жніўня 1944 года: дырэктар А.Спаскі прымае на пасаду загадчыцы вучэбнай часткі і выкладчыка спеваў Лілію Сняшко.

8 чэрвеня 1944 года Чырвоная Армія і партызаны вызвалілі абласны цэнтр Баранавічы. З 60 тысяч насельнікаў засталася ў жывых толькі 4 тысячы. Неверагодная лічба: толькі кожны 15-ы выжыў! Але на гэтых папялішчах адзін з ацалелых будынкаў аддаецца музычнай школе.

У хуткім часе яна робіцца адной з вядучых. Гонарам школы, яе сапраўднымі набыткамі заўсёды былі педагогі — Мацвееў, Максімава, Сімановіч, Швед, Давыдзенка, Кішкевіч... Зараз ДМШ № 1 узначальвае выдатны педагог, член Беларускага Саюза кампазітараў Уладзімір Грушэўскі. Выпускнікі школы працуюць амаль што ва ўсім былым СССР і нават у далёкім замежжы.

Над тым, каб адкрыццё новага будынка для юных музыкантаў адбылося яркім, святочным, шмат папрацавала дырэктар арганізацыйна-метадычнага цэнтра, былая выхаванка Беларускага універсітэта культуры Вольга Аляксеенка.

... Ганак ДМШ № 1 перавязаны чырвонай стужкай. Фасад будынка ўпрыгожаны рознакаляровымі сцяжкамі. Па абодва бакі ганка — вазы з кветкамі. Іграе гарадскі духавы аркестр пад кіраўніцтвам Васіля Прадуна.

Адкрывае святочныя ўрачыстасці загадчык гарадскога аддзела культуры і інфармацыі Вольга Фурса, якая дае слова старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Міхаілу Паўлаву. З вуснаў выступоўцаў усе адчулі, што з наваселлем яшчэ больш музыкі будзе лунаць над Баранавічамі, дзе зараз займаюцца музыкай каля 700 дзяцей...

Уражальнай была і прамова дырэктара ДМШ № 1 У.Грушэўскага. Замацаванне тытульнай шыльды з назвай школы было даручана лепшым педагогам — Анатолю Драздку і Сяргею Паўлаву. Чырвоную стужку разрэзалі старшыня гарвыканкама М.Паўлаў і дырэктар школы, а сімвалічны ключ ад школы навасёлам уручылі будаўнікі. Напрыканцы адбылася вялікі канцэрт і ўручэнне падарункаў віноўнікам урачыстасцяў.

Як бачна, гісторыя ўстановы працягваецца, праз два гады ёй споўніцца 60 гадоў. Да гэтай шчаслівай даты якраз і рыхтуецца ўвесь калектыў...

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**наш пазаштатны карэспандэнт.**
**г.Баранавічы**

# МАСТАЦТВА ЯК СРОДАК РЭАБІЛІТАЦЫІ

3 снежня — Міжнародны дзень інвалідаў. З гэтай нагоды ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы адбылося пасяджэнне “круглага стала” на тэму “Рэабілітацыя інвалідаў сродкамі мастацтва”.

Асноўнае пытанне, што паўстала падчас размовы: справы інвалідаў чамусьці вымушаны вырашаць самі інваліды. Хаця, між іншым, інвалідам можа стаць хто заўгодна і не абавязкова па сваёй віне, а вось вылечыцца...

Сёння інваліду вельмі цяжка ўпісацца ў “здаровае” грамадства. Больш таго, існуе шэраг арганізацый, якія аб'ядноўваючы інвалідаў, раз'ядноўваюць іх, бо не маюць паміж сабою трывалых стасункаў: Беларускае таварыства інвалідаў па зроку, Беларускае таварыства глухіх, Беларуская асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам, таварыства інвалідаў Афганістана, “Чарнобыльскае ліхалецце” і многія іншыя. Аб'яднацца разам — гэта цудоўная мэта, аднак перспектываю павінна стаць дзейнасць па выхаванні належных адносін у грамадстве да інвалідаў. Менавіта з грамадства і патрэбна пачынаць. Вядома, існуюць пэўныя льготы для інвалідаў, аднак няхай гэты чалавек паспрабуе папрасіцца сесці ў гарадскім транспарце ці падысці без чаргі да прылаўка магазіна. Парадокс, але каб інвалід мог дабіцца сваіх ільготаў, яму неабходна мець моцнае здароўе. Сёння мы сталі абстрактнымі гуманістамі: плачам ля тэлевізараў над пакутамі герояў шматлікіх тэлесерыялаў і не звяжаем на тых, хто пакутуе побач з намі.

Яшчэ адна наша памылка ў тым, што мы ўспрымаем інвалідаў як людзей непаўнацэнных. А хіба гэта так?

І ўсё такі, самы каштоўны плён “круглага стала” — гэта практычныя рашэнні. Прадстаўнікі творчых саюзаў і таварыстваў дамовіліся аб сумесным супрацоўніцтве на базе Навукова-даследчага інстытута экспертызы працы і працаздольнасці інвалідаў.

У Доме дружбы адкрылася выстава карцін таленавітай мастачкі, інваліда з дзяцінства Ірыны Лемяшонак. Як зазначылі бадай што ўсе прысутныя на выставе, Моніка (а менавіта такі псеўданім абрала сабе 12-гадовая дзяўчынка) валодае багатай палітрай колераў, арыгінальнасцю кампазіцыйнага мыслення, тонкім пачуццём лініі і незвычайным уяўленнем. А яшчэ гэтая дзяўчынка піша вершы пра прыроду, пра свой родны горад Магілёў.

Тры дні на базе спартыўнага комплексу “Стайкі” адбывалася праграма для дзяцей-інвалідаў “Special Olympics”. А фінальным акордам усіх гэтых мерапрыемстваў стаў гала-канцэрт 3 снежня ў канцэртнай зале “Мінск”, у якім узялі ўдзел каля 300 чалавек. Сярод выступоўцаў, членаў таварыства інвалідаў, — камерны хор “Кантус”, эстрадны аркестр, канцэртна-лекцыйная брыгада і цэлы шэраг разнастайных калектываў культурна-рэабілітацыйных цэнтраў усёй краіны.

**Т.К.**

# ГУЧАЛІ РАМАНСЫ...

У чытальнай зале Рэчыцкай раённай цэнтральнай бібліятэкі прайшоў вечар рускага раманса. Напачатку загадчыца гэтай культурнай установы С.Нячосава і пастаянная наведніца бібліятэкі В.Глазунова расказалі прысутным аб гісторыі ўзнікнення такога музычнага жанру, як раманс. Затым выступілі запрошаныя на вечар мясцовыя аўтары і выканаўцы песень і рамансаў Аляксандр Корсакаў і Юрый Гуменнікаў. Прыемнай нечаканасцю было з'яўленне салісткі сталічнай філармоніі, кампазітара Таццяны Моўчан, чый творчы вечар не так даўно трансліраваўся па тэлебачанні. У яе выкананні прагучалі рамансы, балады, эстрадныя песні. Узнагародай спявачцы былі шчырыя апладысменты ўдзячных слухачоў.

**С.МАТЛАШ**
**Калаж Л.ДВОРНІКА**
*г.Рэчыца*



# СЛУХАЦЬ ДУШОЮ І СЭРЦАМ

Выстава мастацкіх твораў вучняў Мінскай спецыялізаванай школы для глухіх дзяцей пад назвай “Хочаце нас пачуць — глядзіце” праходзіць у Беларускім дзіцячым фондзе. Гэтая выстава не проста прымеркавана да Дня інвалідаў, яна традыцыйна адзначаецца 3-га снежня. Яна плануецца быць доўгатэрміновай, перасоўнай, з тым, каб яе пабачылі ў самых розных кутках краіны. Пачатак гэтаму шэсцю пакладзе дэманстрацыя малюнкаў у Авальнай зале, яна будзе прымеркавана да Міжнароднага дня абароны дзяцей. Варта адзначыць, што творы юных мастакоў прыцягваюць увагу наведнікаў сваім, адметным бачаннем навакольнага свету гэтымі дзецьмі, якім не дадзена чуць, а толькі назіраць. Але ж ёсць, безумоўна, слых душы, слых сэрца, праз які і ўспрымаюць маленькія інваліды ўсё, што іх атачае.

**Наш кар.**



*Таццяна Вакарына з маці Валянцінай Міхайлаўнай.*

Жывапіс для гэтай дзяўчыны ў калясцы — страсць, якую Таццяна Вакарына адчувала з дзяцінства. Пачынала з простых алоўкавых накідаў, затым паспрабавала гуаш, акварэль. А ў гэтым годзе Таццяна ўзяла ў рукі пэндзаль і алей. Слухачом на аддзяленне жывапісу Гомельскай мастацкай вучэльні яна прыйшла, калі ўжо мела за спінай выставу сваіх прац — пейзажаў, што выканаваны акварэллю, якая экспанавалася ў Германіі. У снежні Таццяна ізноў будзе на запрашэнні ў Германіі, дзе пакажа свае новыя працы, а разам з тым пройдзе і курс лячэння.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

<u>Сем вечароў з БТ</u>

# ...І ФІРМОВЫМ ЗНАКАМ

Усё на свеце мае два бакі: вонкавы і сярод каквы. (Праўда, часам мы не ведаем, якому аддаць перавагу). Тое, што адбываецца ў нашым фізічным, матэрыяльным жыцці, бывае не супадае з жыццём духу, розуму, памкненняў.

Тое ж адбываецца і на тэлеэкране. Падзеі, пра якія настойліва інфармуе агенцтва тэленавін, не адбіваюцца на так званых культуралагічных перадачах, кола якіх трапляе ў нашы штотыднёвыя агляды. Бо не хлебам адзіным жыве чалавек.

Мяркуючы па перадачах мінулага тыдня, грамадская думка кіравалася клопатам пра дзяцей і дзяцінства, групавалася вакол кінатворчасці ў краінах СНД і Балты, дбала пра навуку, пра культурнае жыццё “малых” народаў, што насяляюць нашу краіну, пра памяць аб сваіх каранях.

Лідэрам сярод тыднёвай праграмы можна лічыць суботнюю перадачу цыкла “Сталіца” — прамая лінія аб праблемах рэфармавання школьнага навучання. Наладзіць прамую сувязь гледачоў з кіраўніцтвам розных галін — самая важная і самая выразная роля тэлебачання. Назіраць, а тым больш удзельнічаць у фарміраванні грамадскай думкі — што можа быць цікавейшым! Тым больш, што гаворка вялася сур'ёзная, дзелавая.

Шчырым клопатам пра дзяцей, якія жывуць у інтэрнаце, прыцягнула праграма “Сёння з вамі...” Дырэктар школы-інтэрната № 3 г.Мінска Ул.Сякскеў.

Перад гледачом была пастаўлена задача не толькі пачапаць дзецям, што растуць без бацькоў, але і паразважаць над маральнай праблемай: што лепей — аддаваць дзіця ў сям'ю за мяжу ці выхоўваць яго ў інтэрнаце. Яшчэ нядаўна на гэтую тэму вялася дыскусія — ці “патрыятычна” адпраўляць сваіх дзяцей у іншыя краіны, дзе ім будзе лепш.

Вопытны выхавацель паставіў кропкі над “і”. Дзіцяці лепш у сям'і. Нават калі яна — за мяжой. А некаторым гледачам, можа, захацелася прытуліць у сваёй сям'і інтэрнацкае дзіця. Два вечары, праведзеныя з дзецьмі на экране, далібог, натхнялі на такі ўчынак.

Жывы эфір на тэму школьнай рэформы меў варты водгук у глядацкай аўдыторыі, пра што сведчылі шматлікія тэлефонныя званкі ў студыю. На жаль, ён рэдкі госць на экране, калі гаворка заходзіць аб грамадска значных тэмах. Думаецца, што і перадача “Сёння з вамі...”, маючы прафесійных вядучых, магла б ісці ў прамым эфіры, бо згладжаныя вуглы ў гаворцы не надаюць ёй болей цікавасці.

Дарэчы, адкрыты эфір мог бы стаць фірменным знакам перадачы “Сталіца”. Менавіта ў сталіцы знаходзяцца ўсе адказныя асобы, якія кампетэнтна маглі б адказаць на ўсе пытанні, што тычацца жыцця краіны. Па-другое, перадача выходзіць у эфір у зручны глядацкі час, які спрые дыялогу. Суботняя раніца, можна сказаць, прызначана для перагавораў, неазмрочаных будзённым клопатам. Нездарма менавіта ў гэты ж час для абраны для навучальна-папулярнай праграмы “Пазнай сябе”, якую можна павіншаваць з новым субяседнікам, дакладней — субяседніцай, кандыдатам псіхалагічных навук Жанай Грынько. Кантакт з адукаваным, абаяльным, выхаваным чалавекам стварае тут неабходную “камфортную дыстанцыю”, пра якую гаварыла спецыяліст-псіхолаг. Знайсці такога чалавека — гарантыя поспеху перадачы.

Уразіла і перадача з цыкла “Мерыдыян” — Кальварыйскія могілкі. Успомнім, што некаторы час таму мы не прамаўлялі нават пра тэму могілак: лічылі, што мы, савецкія людзі — несмяротныя. Памяталю спрэчку з адной настаўніцай, якая даводзіла, што не трэба вадзіць дзяцей на могілкі, маўляў, гэта іх траўміруе. Тым самым мы адлучалі чалавека ад той культурнай спадчыны, якой з'яўляюцца могілкі, што сведчыць пра ўзровень культуры нацыі. Выхоўваючы атэістаў, грамадства расціла Іванаў, якія не памятаюць радства, людзей без каранёў, па-за ланцужком родавай памяці. Нездарма была папулярнай песня, у якой гучала: “наш адрас — не дом і не вуліца...” У гэтым сэнсе названая перадача нібы парушыла “табу” ў зашораным светаўяўленні...

Два рэпартажы з кінафестывалю краін СНД і Балты, чым, уласна кажучы, жыў мінулы тыдзень кінабамонду, не далі дастатковай інфармацыі пра такую значную падзею, калі ўлічыць, што адкрыццё фестывалю можна было паглядзець па ТВ толькі ўдзень, а не ўвечары.

Было б цікава больш даведацца і пра тэатральны фестываль творчай моладзі Беларусі, што праходзіў у Гродне. Як можна было меркаваць па ўрыўках са спектакляў, размоў з артыстамі, дык і Брэсцкія лялечнікі заслугоўваюць лепшага месца ў праграме БТ.

**Р.Б.**

# РОЗНЫЯ ЦІ РОЎНЫЯ?

27 — 29 лістапада на базе Рэспубліканскага маладзёжнага аб'яднання “Некст Стоп — Нью лайф” адбылася канферэнцыя “Розныя — роўныя!!!”

На працягу 10 месяцаў у краіне рэалізоўваўся праект “Выхад”, галоўная ідэя якога — стварэнне цэнтра сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі маладых інвалідаў ва ўзросце ад 16 да 30 гадоў. Прафесійная арыентацыя і працаўладкаванне, правы і прававаха, бацькі і дзеці, бізнес, адукацыя, вольны час — вось толькі некаторыя аспекты праблемы існавання маладых інвалідаў у соцыуме. Заключным этапам праекта і павінна стаць канферэнцыя. Мэта яе — даць уяўленне грамадскасці пра магчымасці і перспектывы самарэалізацыі маладых інвалідаў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця: сацыяльнай, культурнай, экалагічнай і г.д. Сёння, як ніколі, патрэбна прыцягваць увагу грамадства і сацыяльных інстытутаў да іх праблем, разбураць стэрэатыпы ў адносінах да інваліда. Неабходна раскрываць і рэалізоўваць іх творчы патэнцыял, а дзеля гэтага — ствараць праграмы па рэабілітацыі маладых інвалідаў і ажыццяўляць іх на рэспубліканскім узроўні.

**Т.К.**

# АБ'ЯДНАЕМ НАШЫ НАМАГАННІ

1 снежня адзначаўся Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу. Гэтаму была прысвечана акцыя “Дзеячы культуры, мастацтва, творчая моладзь супраць СНІДу”, якая праходзіла ў Мінску. Ініцыятарамі і арганізатарамі яе выступілі Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДу, Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі, Дзяржаўны камітэт па справах моладзі Рэспублікі Беларусь. У ходзе акцыі 1—4 снежня ладзілася інфармацыйна-забаўляльная праграма ў фестывальным цэнтры “Акварыум”, вечары ў Акадэміі фізічнага выхавання і спорту, Дзяржаўным маладзёжным тэатры і Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі, канцэрт у Лінгвістычным універсітэце, дыскатэкі ў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі і Палацы спорту. Былі паказаны спектаклі ў тэатрах оперы і балета, Рускім драматычным, Тэатры-студыі кінаакцёра.

**Наш кар.**

# ПАЖАРЫ — ГЭТА ЎЖО СУР'ЁЗНА

Апошнім часам у г. Мінску склалася надзвычай сур'ёзнае становішча ў сувязі з павелічэннем колькасці пажараў, якія прыводзяць да смерці і траўмавання жыхароў сталіцы, у тым ліку і дзяцей.

Так, за 9 месяцаў гэтага года мелі месца 1613 пажараў, у якіх загінулі 40 чалавек, з іх — 8 дзяцей, атрымалі траўмы —58, з іх — 5 дзяцей. Гэта па ўсіх паказчыках болей, чым за той жа перыяд 1997 года.

Асобнае месца ў статыстыцы займаюць пажары, якія адбыліся ў выніку свавольстваў з агнём дзяцей. Яны ўзнікаюць не толькі ў жылых дамах, але і ў навучальных установах. У прыватнасці, у сярэдняй школе № 175 Фрунзенскага раёна ў адной з распранальнях вучань пакінуў у сваёй куртцы незагашаную цыгарэту, што і з'явілася вынікам пажару, падчас якога два школьнікі атрымалі траўмы.

Сістэматычныя выступленні інспектараў пажарных падраздзяленняў горада на бацькоўскіх сходах, перад педагагічнымі калектывамі і вучнямі прыносяць пэўны плён. Але ж толькі дзякуючы агульным намаганням можна пазбегнуць надзвычайных сітуацый. Выхаваўчае ўздзеянне павінна найперш зыходзіць ад бацькоў, педагогі ж у сваёй школьнай праграме абавязаны з усёй сур'ёзнасцю ставіцца да навучання дзяцей правілам паводзін з агнём, каб не здаралася пажараў і ў жылых дамах, і ў навучальных установах. Плата за свавольства можа быць вельмі дарагой.

**Аляксандр ЯКІМЕНКА, інспектар пажарнай часткі Цэнтральнага раёна г.Мінска**




**Назва 4-х наступных палос прыйшла сама сабой. Проста выскачыла з вуснаў на рэдакцыйнай лятучцы, рассмяшыўшы супрацоўнікаў "К". МАЛадзёжныя ПАлосы — скарочана МАЛПА. А што, ёсць жа ў нас вадаплаваючы КІТ, няхай будзе сухапутная малпа, што скача з галіны на галіну (націск пастаўце самі) у джунглях нашай рэчаіснасці.**

**А хто больш за ўсё весяліць чалавека? Вось-вось...**

**А хто больш за ўсё раздражняе чалавека? Ну-у-у...**

**Чаму? Бо часам падобная да яго.**

**Вядома і тое, што найбольш весяліць альбо раздражняе сталага чалавека — моладзь. Таму што нагадвае яму яго.**

**Што ж, весяліцеся, раздражняйцеся, здзіўляйцеся, а можа, і абурайцеся.**

**Мы ж паспрабуем, як можам, утаймаваць няўрымслівую "малпу".**

***"Дрэсіроўшчык" МАЛПы Серж МІНСКЕВІЧ***



**Новыя рубрыкі, новыя аўтары...**

# УЗНОЎЛЕНЫ НА СКРЫЖАВАННІ ПЛЫНЯЎ, ВІХУРАЎ І ДАРОГ

***Зачаўрэлы было часопіс творчай моладзі "Першацвет" мае шанец ізноў прарасці. Праўда, яго семя перасаджана на больш неспакойнае месца, але, відавочна, гэта яму не шкодзіць, а наадварот — дае загартоўку. Дзякуй Богу, не знайшлася тая рука, якая магла б сваім росчыркам перакрэсліць права на жыццё маладым парасткам Думкі, Слова і Вобраза!***

***З тае нагоды наш карэспандэнт Серж МІНСКЕВІЧ сустрэўся з сённяшнім рэдактарам часопіса "Першацвет", рэдактарам аддзела крытыкі "Літаратуры і мастацтва" паэткай Людмілай РУБЛЕЎСКАЙ.***



**— Неўзабаве пабачыць свет першы нумар абноўленага "Першацвета". Чым гэты "Першацвет" будзе адрозніваццa ад папярэдняга? Якая, увогуле, будзе яго канцэпцыя?**

— Не хацелася б параўноўваць з былым "Першацветам", але праект такі: не проста альманах, дзе друкуюцца творы маладых аўтараў, а часопіс з формулай "тэкст і кантэкст".

**— А што гэта такое, на вашу думку, "тэкст" і "кантэкст"?**

— Тэкст — творы маладых і іх пераклады іншамоўных аўтараў, а кантэкст — гэта той асяродак, які будзе даваць літаратурную адукацыю. Тут і асновы тэорыі літаратуры, літаратурны практыкум, школа перакладу, школа філасофіі, гісторыя мастацтва, сучаснае мастацтва. Часопіс будзе накіраваны на дыялог з чытачом. На яго старонках пастаянна будуць праводзіцца конкурсы для чытачоў, будуць давацца хатнія заданні. Так, у першым абноўленым альбо здвоеным 10-11-м нумары чытачам літаратурнага практыкума прапануецца напісаць оду, а рубрыка гісторыі мастацтва "Кунсткамера" аб'яўляе конкурс на тэму "Егіпецкія ночы".

Часопіс будзе адлюстроўваць сучаснае і класічнае мастацтва і літаратуру, як сусветнае, так і айчыннае. Але ў цэнтры ўвагі будуць праблемы творчай моладзі. Будзе асвятляцца дзейнасць маладзёжных творчых аб'яднанняў. Так, гасцёўня "Траянскі конь" прапануе сустрэчы з сучаснымі маладзёжнымі рухамі Беларусі. Рубрыка "Паралелі" будзе змяшчаць матэрыялы пра тыя ж з'явы ў іншых краінах. Рубрыка "Повязь" — гісторыя беларускай літаратуры. Ізноў жа пра маладосць класікаў гэтай літаратуры. У будучым плануецца наладзіць сувязі з аналагічнымі выданнямі і творчымі суполкамі за межамі нашай краіны, каб часопіс увесь час быў у эпіцэнтры найноўшага мастацтва, на скрыжаванні ўсіх яго плыняў, віхураў і шляхоў. І яшчэ хацелася, каб наш часопіс нельга было "перарасці".

**— Растлумачце, калі ласка, як гэта — "нельга перарасці"?**

— Каб у ім не сорамна было надрукавацца самаму элітарнаму ды самаму геніяльнаму маладому пісьменніку (хаця хто ён — не ведаю, магчыма, кожны ім сябе лічыць) і адначасова пачаткоўцу, які б мог атрымаць паўнацэнную кансультацыю па сваёй творчасці.

**— А як вам, як паэту, як маладому творцу, удаецца сумяшчаць адказную працу рэдактара часопіса са сваімі творчымі планамі і працай у газеце "Літаратура і мастацтва"?**

— На чыстым энтузіязме. Я толькі аўтар праекта. Рэдактар нумара. Быць у начальніках я не хацела і не хачу. Гэта ўвогуле супярэчыць разуменню паэта. Але, наколькі я ведаю з гісторыі сусветнай літаратуры, многія паэты браліся за стварэнне свайго выдання, свайго тэатра. Я расцэньваю гэта, як яшчэ адзін від творчасці. У прынцыпе, многія творчыя асобы майго пакалення падтрымалі ідэю абноўленага "Першацвета" і таксама працуюць "на энтузіязме". Гэта, напрыклад, Галіна Багданава, Андрэй Федарэнка, Пятро Васючэнка, Міхась Скобла.

**— Ці ўзнікаюць у вас складанасці з арганізацыйнай працай?**

— Калі прыйдзецца выбіваць паперу, ездзіць па начальніках, можа, такія праблемы і ўзнікнуць. Пакуль не з'явіліся, але я яшчэ за гэта не ўзялася. Гэта адміністрацыйная частка ляжыць на плячах галоўнага рэдактара газеты "Пераходный возраст" Алены Філіпчык. Наш "Першацвет" лічыцца дадаткам да "Переходного возраста". Алена Філіпчык — фактычна рэдактар абодвух выданняў. Да майго прыходу ў "Першацвет" — яго практычна ўжо не існавала. Я прыдумала свой праект часопіса, ніхто не дыктаваў умоў. Мы здзейснілі гэты праект.

**— На якога чытача разлічаны абноўлены "Першацвет"?**

— Я прадбачу дакоры ў элітарнасці і "далёкасці ад народа". Нядаўна я перачытвала "Маніфест мастака" знакамітага рускага тэатральнага рэжысёра, стваральніка Камернага тэатра Аляксандра Таірава. Маніфест напісаны ў 1917 годзе, калі пытанне пра народнасць мастацтва і мастацтва для народа было абвострана надзвычай, а для многіх мастакоў яно было пытаннем жыцця і смерці. Таіраў, дэкларыруючы сваю прыхільнасць да рэвалюцыі і да рэвалюцыйнага мастацтва, разважае аднак наступным чынам: "Што значыць народнае мастацтва — гэта значыць, што ёсць мастацтва не народнае? Хіба мастацтва гэта цягнік, дзе ёсць спальныя вагоны і цяплушкі? Калі дзіця толькі вучыцца гаварыць, яно міла і смешна ляпеча, не вымаўляе многіх гукаў. Але паступова, чуючы вакол сябе правільнае маўленне дарослых, таксама пачынае мовіць правільна. І ўжо смяецца над сваім дзіцячым лепятаннем. Але ёсць бацькі, — кажа Таіраў,— якія ў захапленні ад свайго дзіцяці сюсюкаюць у лад яму, пераймаюць дзіцячую гаворку. І тады беднае дзіця доўга не зможа адвучыцца ад хібаў свайго маўлення..." Дык вось задача абноўленага "Першацвета" мне бачыцца ў тым, каб пачатковец адразу ўспрымаў лепшыя ўзоры мастацтва побач са сваімі творамі, атрымліваў аўтарытэтную ацэнку сваіх твораў. Каб у яго такім чынам выпрацоўваўся высокі мастацкі густ.

**Эфір, які не нюхаюць**

# ІМІДЖ "РАДЫЁ-РОКС"

***Вясной гэтага года "Радыё-Рокс" святкавала угодкі прамога вяшчання з Мінска. А з лета радыёхвалю можна слухаць не толькі ў сталіцы, але і ў Віцебску і Брэсце...***



Яшчэ нейкіх гадоў шэсць таму мінчане і не марылі пра радыёстанцыю, дзе б 24 гадзіны ў суткі гучала сапраўды добрая музыка, дзе б асноўнымі навінамі былі не зацяжны крызіс і бясконцыя эканамічныя праблемы, а падзеі музычнага жыцця ўсяго свету. Не было ў той час радыёхваль, дзе б са слухачамі размаўлялі не дыктары з аскетычнымі і манатоннымі галасамі, а жыццярадасныя і такія ж "жывыя", як слухачы, дзі-джэі. Шмат для каго менавіта "Радыё-Рокс" стаў адзіным даступным арыенцірам у сучаснай музыцы, крыніцай хоць якой-небудзь інфармацыі пра творчае жыццё любімых замежных рок-гуртоў.

Так прайшло каля шасці гадоў, а роксаўцы, па словах яго дырэктара Таццяны Сядовай, усё яшчэ вельмі маладыя і самі толькі вучацца.

Калектыў "Радыё-Рокс" — публіка "разнапоўсная". Адны дзі-джэі чаго каштуюць! На гэтай радыёхвалі можна пачуць галасы на любы густ: і сціплага, ціхага С.Прохарава, і непамерна пяшчотных І.Клёнаву і Т.Сулімаву, стрымана-пачуццёвага А.Старповіча і нават хлопчыка-непаседу, словаблуда К.Сухоцкага. А такія экзатычныя вядучыя праграмы "Юніполіс", як Зоня Хольберг і Джымі Нэльсан! Акрамя таго, усе дзі-джэі — людзі розных прафесій: журналісты, рэжысёры, гісторыкі і нават прафесійныя слесары. Аб'ядноўвае іх уменне размаўляць са слухачамі, веданне сучаснай музыкі і добры густ.

Але што на самой справе прымушае слухачоў настройваць свае радыёпрыёмнікі на хвалю FM 102,1? Не столькі разнастайнасць галасоў дзі-джэяў, колькі змест радыёхвалі і гарантыя добрага настрою. Калі на "Бі-Эй" працуюць пад дэвізам: "радыё — для ўсіх", дык "Рокс" — гэта радыё для разумных слухачоў з вельмі добрым музычным густам.

Аднак, як не бывае ідэальных людзей, так і не можа быць бездакорных радыёстанцый. Не абыходзяцца пакуль роксаўцы без банальных гульняў са слухачамі кшталту "Прасцей за простае", "Махнемся не гледзячы", якія здольны зацікавіць на першыя дзве секунды, да першага пытання. Недахопам на "Радыё-Рокс" з'яўляецца і вялікая колькасць рэкламы, якая ўсім досыць абрыдла. Але праіснаваць без яе ў наш час, на жаль, немагчыма.

У астатнім усё цудоўна. І сведчаннем таму — усё большая і большая папулярнасць "Радыё-Рокс". Мяркуючы па лістах, попыт слухачоў вельмі вялікі, што падштурхнула роксаўцаў пашырыць свой тэрытарыяльны ўплыў на іншыя гарады.

Аднак, што ўяўляе "Радыё-Рокс" на самой справе, лепей раскажуць самі роксаўцы.

**— Таццяна Леанідаўна, як вы сталі дырэктарам "Радыё-Рокс"?**

— Я шалёна люблю радыё. Радыё — гэта стыль майго жыцця. Ужо з дзяцінства я займалася радыёспортам і была чэмпіёнкай рэспублікі. Размаўляла з усім светам яшчэ ў КВ-эфіры.

**— Асноўная задача "Радыё-Рокс" — добры настрой слухачоў. А якая асноўная функцыя: інфармацыйная, забаўляльная ці асветніцкая?**

— Хутчэй за ўсё — забаўляльная. Безумоўна, акрамя гэтага хацелася б несці і пазнавальную інфармацыю. А як гэта ў нас атрымліваецца — меркаваць слухачам.

**— Існуюць розныя формы працы на радыё: лінейны эфір, аўтарскія праграмы, гульні, яія маюць на ўвазе інтэрактыўныя размовы. Што на "Радыё-Рокс" павінна быць асноўным?**

*(Заканчэнне на стар. 8.)*




# СТВОРЫМ БАНК ВУНДЭРКІНДАЎ!

Візітнай карткай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца яе мастацтва. Мастацтва маладых займае ў ім пачэснае месца. Таму падтрымка творчасці юных талентаў мае ўсе падставы быць па-сапраўднаму дзяржаўнай задачай.

У рэспубліцы назапашаны самы разнастайны вопыт работы з юнымі талентамі. Праводзіцца вялікая работа па пошуку адораных дзяцей і падлеткаў, ажыццяўляецца іх навучанне, ствараюцца ўмовы для развіцця здольнасцяў.

Прыкладам таму могуць служыць узнагароды, атрыманыя юнымі талентамі на нядаўніх міжнародных конкурсах: Гран-пры і першая прэмія Міжнароднага конкурсу вышэйшых школ музыкі і вышэйшых школ мастацтваў у Японіі (1997 г.) сярод піяністаў Сяргея Смірнова (выпускнік музычнага ліцэя, сёння студэнт Беларускай акадэміі музыкі; педагог У. Няхаенка), званне лаўрэата на Міжнародным конкурсе імя І. Менухіна (Францыя, 1998 г.) Алега Яцыны (вучань Рэспубліканскага музычнага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай Акадэміі музыкі; педагог Л.Умнова), званне дыпламантаў-лаўрэатаў Міжнароднага фестывалю-конкурсу ансамблевай гітарнай музыкі ў Польшчы (1997 г.) Таццяны Рыжковай і Мікіты Максімчыка — навучэнцаў дзіцячай музычнай школы № 2 г. Мінска (педагог В.Громаў).

Аднак пры ўсім шматаблічны формаў работы з творча-адоранымі дзецьмі ўзнікла неабходнасць аб'яднання намаганняў па ўдасканаленні сістэмы пошуку і адбору таленавітых дзяцей і каардынацыі гэтай дзейнасці.

Для вырашэння гэтых задач Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь пры садзеянні спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі створаны Цэнтр па рабоце з адоранымі дзецьмі і таленавітай моладдзю пры Беларускім інстытуце праблем культуры. Цэнтр ахоплівае работу з дзецьмі і юнакамі ад 6 да 20 гадоў па наступных напрамках:

— музычнае мастацтва;
— харэаграфія;
— выяўленчае мастацтва,

і ставіць перад сабой наступныя задачы:

— пошук і вызначэнне адораных дзяцей і таленавітай моладзі;
— стварэнне банка дадзеных;


Алег Яцына.


Таццяна Рыжкова і Мікіта Максімчык.

— прасочванне творчага станаўлення адораных дзяцей;
— прапаганда педагагічнага вопыту выкладчыкаў, якія працуюць з адоранымі дзецьмі;
— падтрымка творчасці юных талентаў;
— навучанне выкарыстанню найноўшых камп'ютэрных мультымедыйных тэхналогій у творчасці.

Для рэалізацыі дадзеных задач цэнтр плануе праводзіць конкурсы самых розных узроўняў, канцэрты, канцэрты-прэзентацыі, выставы, майстар-класы таленавітых педагогаў, якія валодаюць індывідуальнай методыкай работы з адоранымі дзецьмі, паказ таленавітых дзяцей у тэлеперадачах, стварэнне сістэмы навучання адораных дзяцей і моладзі мультымедыя- і Інтэрнет-тэхналогіям з выхадам лепшых прац на Рэспубліканскі конкурс.

Для стварэння банка дадзеных цэнтр распрацаваў анкету. Мы звяртаемся да ўсіх раённых аддзелаў культуры, да кіраўнікоў навучальных установ, творчых арганізацый, што працуюць з дзецьмі, па дапамогу — паскорце адпраўку анкет па адрасе:

***220086, г.Мінск, вул Каліноўскага, 12, пакой 69, Цэнтр па рабоце з адоранымі дзецьмі і таленавітай моладдзю.***

Для прапаганды і падтрымкі творчасці таленавітых дзяцей і моладзі цэнтр гатовы супрацоўнічаць з навучальнымі ўстановамі, творчымі саюзамі, аналагічнымі цэнтрамі ў блізкім ці далёкім замежжы.

Цэнтр будзе рады вітаць спонсараў, якія праявяць жаданне супрацоўнічаць з намі. Будзем рады ўсім прапановам, скіраваным на ўдасканаленне работы цэнтра.

Даўно стала звыклым паняцце, што дзеці — нашая будучыня, але й насамрэч гэта так. Сёння ў нас маецца магчымасць ствараць сваю будучыню, але рабіць гэта мы павінны сумеснымі намаганнямі.

**Антаніна СЦЯПЫЧКІНА, кіраўнік Цэнтра па рабоце з адоранымі дзецьмі і таленавітай моладзю.**

АНКЕТА
1. Прозвішча, імя, імя па бацьку ______
2. Дзень, месяц і год нараджэння ______
3. Хатні адрас і тэлефон ______
4. Спецыяльнасць навучання ______
5. Перамогі (лаўрэацтва) на конкурсах (раённых, гарадскіх, абласных, рэспубліканскіх, міжнародных) ______
6. Адрас, тэлефон установы навучання ______
7. Прозвішча, імя, імя па бацьку педагога, тэлефон ______
8. Кандыдатура рэкамендавана для занясення ў банк дадзеных ______
*(назва ўстановы)*
9. Хадайніцтва падтрымліваюць ______
Дырэктар навучальнай установы ______
Гарадское (раённае, абласное) упраўленне культуры
______
М.П.

# "ЛЕСВІЦА Ў НЕБА", альбо АБ ЧЫМ ДУМАЮЦЬ СВАВОЛЬНЫЯ МАСТАКІ

***У Брэсце па вуліцы Гогаля, 54, у будынку XIX стагоддзя, дзе апошнія гады месціліся мастацкія майстэрні, адбылася акцыя "Чацвёра і Вішнёў-аб'ект". Зладзілі праект галерэя "Бергамот", брэсцкае культурна-асветніцкае згуртаванне "Маладзік" і Брэсцкая абласная арганізацыя Беларускага Саюза мастакоў. Восем невялічкіх залаў двухпавярховіка ў кантэксце акцыі былі ўжо жывой фактурай. Барыс Пракапенка (Мінск), Раман Трацюк (Брэст), Вольга Маслоўская (Брэст), Марыян Стэмпак (Торунь), Максім Тарасюк (Брэст) і Вішнёў-аб'ект (Мінск) прадставілі кожны свой перфоманс, інсталяцыі, фотаздымкі і графіку.***


Фрагмент экспазіцыі Рамана Трацюка і Вольгі Маслоўскай.

Так атрымалася, што гэтую акцыю зладзілі творцы з рознымі эстэтычнымі поглядамі на мастацтва. Тут, вядома, ёсць свае мінусы і плюсы. Таму мусім канстатаваць, што экспазіцыйная частка акцыі атрымалася не зусім цэласнай. Узнікала агульнае ўражанне, нібыта праводзіліся нейкія дыверсіі, каб сапсаваць рэйкавыя шляхі для цягнікоў ад мастацтва.

На адкрыцці ў зале-фае гледача сустрэлі творы Рамана Трацюка, Вольгі Маслоўскай і частка жывой экспазіцыі праекта культу асобы Зміцера Вішнёва — укрыжаваная на сцяне "дыхаючая мумія Вішнёва". Побач былі прышпілены забінтаваныя парасон, капялюх і торбфель. Варта зазначыць, што мумія была прыбітая толькі за вопратку. Калі праз дзверы хлынуў натоўп, да муміі падышоў чалавек і зрэзаў на ёй верхняе адзенне. Такім чынам, яна засталася толькі ў бінтах, прачнулася ад сну, сцягнула са сцяны торбфель... у гэты самы момант з суседняга пакоя з дынамікаў загучаў голас Вішнёва, які чытаў тэкст "Шчыры чалавек". Падчас гэтага мумія выцягвала з торбфеля візуальныя вершы і кавалкі шкла, якія яна раскідвала і таптала. Калі змоўк магнітафонны голас, мумія знайшла ў торбфелі раздрукаваны на паперы тэкст "Шчыры чалавек" і пачала яго чытаць. Пры гэтым замест мікрафона быў скарыстаны забінтаваны слоік, куды і складваўся паветраны тэкст "Шчыры чалавек". Потым на слоік мумія нацягнула накрыўку і рытуальна ўстала на калені, прычым яе рукі, як тэлефонны дрот, выпрасталіся ў бок насценнага контура Вішнёва...

Вольга Маслоўская прадставіла публіцы "Лесвіцу ў неба" і "Непаладкі". Абодва творы прасякнуты любоўю да альпінізму. У першым выпадку дзве лесвіцы з элементамі цэлафану як бы дораць пацалункі трубам, што размешчаны побач. Адначасова тут назіраецца жаданне пракласці дарогу да небастыку. Дамаляваныя на сцяне контуры лесвіцы сімвалізуюць вострую патрэбу чалавека здзяйсняць свае мары насуперак усяму. Дарэчы, карані ад чатырох старых дрэваў з накладзеным на іх макіяжам ад Рамана Трацюка кампазіцыйна замкнулі гэтую частку прасторы.

Інсталяцыя Вольгі Маслоўскай "Непаладкі" нагадала мне некаторыя іншыя, што былі выстаўленыя на апошніх віцебскіх фэстах "In-formation". Навацыя тут грунтуецца зноў жа на лесвіцах. Аўтарка прапануе гледачу пералезці па іх у пакой з вяровачнымі кратамі, каб адчуць атмасферу зняволенасці. Тэлевізар і бітае шкло, вёдры і цэмент мяжуюць з норкамі пацукоў... Нездарма ж мастацтвазнаўца з Кобрына Валянціна Шахалевіч прычапіла на дзвярах улётку, дзе абвясціла, што дзейнасць самарыцян адгукнецца на дадзенай акцыі, і гэта будзе шлях да творчай перамогі.

Адна зала была аддадзена пад выяўленчы праект культа асобы Зміцера Вішнёва — паласатыя трубы і батарэі, балеі, венцілі, скрыні, бінты. Інсталяцыі і аб'екты ўяўляюць сабой замкнёны цыкл дзейнасці геніяў. Паўсюль незлічоная колькасць аднолькавых помнікаў і бюстаў...

Марыян Стэмпак быў, безумоўна, цікавы як для мастакоў, так і для наведнікаў, бо ён мае вялікі вопыт удзелу ў выставах і акцыях. Стэмпак зрабіў дзве інсталяцыі "Свет неабыякавы". Як падалося, больш удалай была зробленая з рознакаляровага шкла. Каляровая важкасць, шматсэнсоўнасць інсталяцыі моцна вылучылі яе сярод іншых праектаў.

Раман Трацюк выставіў сорак фотаздымкаў. Бясспрэчна, што іх эстэтыка належыць да падобнага роду акцый. Але, па словах мастацтвазнаўцы Ірыны Бігдай, што прыехала з Мінска, прастора з фотаздымкамі была перагрувашчаная сімваламі і вобразамі. З ёй можна пагадзіцца, да таго ж і дрэннае асвятленне не надта спрыяла разгляду твораў. Таму мастак перад залай з фотаздымкамі выдаваў наведнікам запальнічкі.

Барыс Пракапенка прыехаў самым апошнім з удзельнікаў, таму часу на падрыхтоўку яму неставала. Канцэпцыі да сваіх твораў ён не прадставіў, а запрапанаваў самім журналістам яе прыдумаць...

**Астап ГРУША**

# ІМІДЖ "РАДЫЁ-РОКС"

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 7)*

— На мой погляд — праца дзі-джэяў. Я лічу, што ў гэтым і заключаецца прывабнасць нашай станцыі, калі ў эфіры свабодна размаўляюць са слухачамі жывыя і разумныя людзі. А гульні —гэта другаснае, і стаўлюся да іх я адмоўна.

**— Як з'явіліся на "Радыё-Рокс" дзі-джэі Зоня Хольберг і Джымі Нэльсан?**

— З Джымі мы пазнаёміліся на дыскатэцы. Вельмі сімпатычны малады чалавек. А Зоня — гэта маленькая таямніца праграмы "Юніполіс".

**— Што ўплывае на выбар музычнага матэрыялу, які выходзіць у эфір?**

— Мы выбралі свой фармат — рокавы. Гучыць і іншая музыка, але імкнемся не дапускаць таннай папсы. Марым сеяць добрае, выхоўваць сярод моладзі разумных, інтэлігентных людзей. Але для гэтага нам самім яшчэ трэба вучыцца.

Нягледзячы на сваю маладосць, жыццярадаснасць і бесклапотнасць у эфіры, роксаўцы вельмі сур'ёзна ставяцца да сваёй працы. Калі вы думаеце, што музыка, якая гучыць у эфіры — вынік спантаннага, суб'ектыўнага выбару дзі-джэяў, дык вы глыбока памыляецеся. У роксаўцаў усё разлічана з навуковай дакладнасцю: днём павінна гучаць адна музыка, увечары — другая, уначы — трэцяя. Дапамагае дзі-джэям абраць тую ці іншую кампазіцыю камп'ютэр, які складае для іх play-лісты. Па такой сістэме ўжо даўно працуюць замежныя радыёстанцыі, а для роксаўцаў гэта толькі першыя спробы. Зразумела, гэта вельмі палягчае працу дзі-джэяў, якая і без гэтага поўная цяжкасцей. Аказваецца, дзі-джэі "Радыё-Рокс" працуюць без гукарэжысёраў, сам-насам з вялікай колькасцю апаратуры: мікрафон, камп'ютэр, пульт, джынгл-машына. Як сказаў Сяргей Прохараў, усё, што гучыць у эфіры, робіцца ўсімі часткамі цела і пры гэтым адначасова. Хіба што ногі не ўдзельнічаюць.


Сяргей Прохараў.

Сяргей Прохараў — адзін з вядучых дзі-джэяў на радыёстанцыі. Роксаўцы пяшчотна называюць яго "наш інтэлектуал".

**— Выбар музыкі на "Радыё-Рокс" здзяйсняе машына. Вас гэта не бянтэжыць?**

— Гэта не зусім так. Выбіраем музыку мы самі і закладваем дадзеныя ў камп'ютэр, які нам выдае аптымальны варыянт на play-лістах. Мы маем права карэкціраваць гэтыя лісты па сваім гусце, не выходзячы за вызначаны фармат нашай хвалі. Права выбару крыху абмежавана, і гэта правільна. Так, я вельмі люблю групы "Kings", ранні "Genesis", "Piter Gabrial". Але я вельмі добра разумею, што калі пачну ставіць музыку, якая падабаецца асабіста мне, дык палова прыёмнікаў будзе тут жа выключана.

**— Наколькі аператыўна "Радыё-Рокс" рэагуе на з'яўленне музычных навінак за мяжой?**

— Я магу проста пахваліцца. У Мінску мы першыя атрымліваем амерыканскія і еўрапейскія хіты. Як правіла, хіты ў нас з'яўляюцца нават раней, чым яны пачынаюць гучаць там.

**— Чаму на "Радыё-Рокс" гучыць пераважна замежная музыка?**

— Мы б з радасцю круцілі такія беларускія гурты, як "Крама", "Тройца", "Нейро Дюбель", Кавалёва і іншых, калі б іх запісы былі на высокім узроўні, як тэхнічным, так і якасным. Расійскае музычнае мастацтва моцна падпарадкаванае камерцыйнай ідэі, таму абсалютная большасць песень нам не цікавая. А пастаянна круціць "Машину времени", "Чижа и компанию", ДДТ, "Аквариум" — таксама не выйсце.

**— Ці ёсць у "Радыё-Рокс" канкурэнты?**

— Безумоўна, ёсць. Кожная станцыя, якая працуе ў FM-дыяпазоне, з'яўляецца нашым канкурэнтам. Але трэба памятаць, што, зніжаючы вартасці сваіх суседзяў па FM-эфіры, ты рызыкуеш у нейкі момант проста прапусціць іх імклівы рост і апынуцца ззаду.

**Аксана КРАСНІК, студэнтка Беларускай акадэміі музыкі**

# АСОБА = ПРАЦА + СПОРТ + ВУЧОБА

***Таццяна Бародкіна — даволі вядомы ў маладзёжных колах журналіст, адна з вядучых рубрыкі газеты "Няміга" "Мой родны гук, як ты мне мілы", што асвятляе дзейнасць беларускіх рок-гуртоў. Яна студэнтка Беларускага тэхналагічнага універсітэта. Вучыцца на платным аддзяленні, таму часткова грошы на вучобу зарабляе сама. І ўвогуле гэта вельмі цікавы чалавек.***

***З Таццянай я сустрэўся на спартыўнай пляцоўцы. Толькі што закончыўся матч першынства Тэхналагічнага універсітэта па валейболе сярод жаночых каманд. Каманда факультэта хімічнай тэхналогіі і тэхнікі, дзе Таццяна капітанам, перамагла сваіх саперніц і пакуль лідзіруе ў спаборніцтвах.***

**— Сітуацыя вымагае пытанне — што для цябе спорт?**

— Спорт для мяне аддушына.

**— І, безумоўна, добрая фізічная форма дапамагае ў працы журналіста. Што для цябе галоўнае: тваё студэнцтва альбо журналістыка?**

— Аднолькава цікава і вучыцца і працаваць.

**— А што цябе прывяло менавіта ў журналістыку?**

— Па-першае, я магу выказваць свае думкі калі хачу і дзе хачу. Па-другое, я займаюся адной са сваіх любімых тэм — музыкай. Па-трэцяе, праца журналіста дапамагае мне ў вучобе. А мая спецыяльнасць — выдавецкая справа — шчыльна звязана з журналістыкай.

**— Як ты сумяшчаеш працу і вучобу? Якія з-за гэтага ўзнікаюць праблемы?**

— Першая праблема — гэта бацькі. Усе бацькі ўпэўненыя, што трэба спярша вучыцца, а пасля працаваць. Але яны разумеюць мяне. Раніцай я еду ва універсітэт, вечарам на канцэрт. Зрэдку выпадае, што няма ніякіх музычных падзей, я еду дадому.

**— А калі ты знаходзіш час для самападрыхтоўкі?**

— У тым жа універсітэце. Зрэшты, у кожнага студэнта маецца шмат часу — гэта ноч.

**— А артыкулы калі пісаць?**

— Для гэтага (не кажыце маім бацькам) ёсць лекцыі.

**— Можна пацікавіцца, якія ў цябе адзнакі?**

— Пяцёркі і тройкі. Няма сярэдзіны. Усе гуманітарныя — "5", а ўсе тэхнічныя — "3". Першы курс скончыўся, а з ім завяршыліся амаль усе тэхнічныя дысцыпліны, так што маю спадзяванне вучыцца на выдатна.

**— Ты журналіст і маеш спрактыкаванае вока. Якая арганізацыя жыцця ў нашага шараговага студэнта?**

— Усе студэнты падзяляюцца на дзве катэгорыі. Гэта студэнты са сталіцы і з правінцыі. Сталічныя ці з буйнога горада студэнты больш актыўныя. І акрамя вучобы дзесь падпрацоўваюць і праводзяць свой вольны час у дакладна вызначаных для сябе месцах. А студэнты з правінцыі ў асноўным сядзяць у інтэрнаце, і па-за вучобай п'юць гарэлку, ладзяць свае, так званыя "пасядзелкі". Больш за палову з іх не цікавяцца, што адбываецца ў горадзе, куды можна пайсці.

**— Не хочуць ці няма магчымасці, нестае інфармацыі?**

— Я думаю, што інфармацыі дастаткова, і слупы з афішамі бачаць. Няма жадання.

**— Можа, яны сарамлівыя? А, можа, вялікі горад іх прыгнятае?**

— Не, не думаю. У мяне ёсць сябры — студэнты з правінцыі, якія ў адрозненне ад большасці сваіх калег жывуць даволі насычаным жыццём. І, як вынікае з іх слоў, нежаданне сарамлівасцю і прыгнячэннем не растлумачыш.

**— Пытанне да цябе, як да журналісткі музычнай газеты "Няміга": якую музыку сёння хоча слухаць моладзь?**

— Моладзь падзяляецца на прыхільнікаў разнастайных музычных напрамкаў. Усіх і не пералічыш.

**— А самыя асноўныя, што ёсць на Беларусі?**

— Безумоўна Rave, Rap, Metall і Rock. Прыхільнікі першых двух праводзяць свой вольны час на дыскатэках. З імі і тыя, хто яшчэ не вызначыў свае густы, таму што дыскатэк вельмі шмат развялося. Яны ёсць у кожным раёне. Кошт квіткоў даступны. Прыхільнікі апошніх двух напрамкаў, менавіта Metall'a і Rock'a, збіраюцца ў клубах. На жаль, клубы цяпер можна пералічыць на пальцах адной рукі. І ўсё ж у юнакоў і дзяўчат сёння існуе даволі багаты выбар, як правесці вольны час.

**— Гэта добра ці кепска? Напрыклад, у былым СССР моладзь спрабавалі выхаваць, выкшталціць на адзін капыл?**

— Я лічу, што калі моладзь розная, то гэта вельмі добра. Ёсць болей шляхоў для духоўнага развіцця, адкрываецца больш магчымасцей, узнікае больш цікавасцей, жаданняў і станоўчай дзейнасці.

**— А як розныя групоўкі ставяцца адна да адной?**

— Хтосьці варожа. Хтосьці сябруе. У асноўным спрачаюцца панкі і рэперы. Але я ведаю некалькіх панкаў, якія сядзяць з рэперамі за адной партай і з'яўляюцца лепшымі сябрамі. Таму лічу, што стасункі груповак паміж сабою залежаць перш-наперш ад асобы чалавека, ад асабістых якасцей тых, хто складае тую ці іншую групоўку.

**— Раскажы мне, хто такія "гопнікі"? Вядома, што іх не любяць ні тыя, і ні тыя. Што гэта за дэфініцыя?**

— "Гопнікамі", альбо "гопамі", называюць тых, хто ўвогуле нічым не цікавіцца. Ці яшчэ адно азначэнне — тыя, хто слухаюць элементарную, нізкапробную папсу. А збольшага, гэта людзі, якім няма чым заняцца. У іх толькі адна мэта (праўда, мэтай гэта не назавеш, хутчэй — інстынкт) — дзесь напіцца, а пасля бадзяцца па вуліцах, каб адшукаць і пабіць "нефармала", гэтак яны называюць кожнага, хто не падобны да іх. Хлопцу з доўгімі валасамі хочуць валасы абрэзаць ці падпаліць, у рэпера — сарваць і затаптаць бейсболку.



Таццяна Бародкіна (ў цэнтры).




Вучоба — вучобай, а паесці — перш за ўсё!



**— Як ты лічыш, якія ёсць шляхі, каб у асяроддзі моладзі не ўзнікалі "гопнікі"?**

— Толькі калі адкрыць як мага болей месцаў — клубаў, музычных кавярняў. Часта праводзіць розныя культурныя акцыі. І каб кошт квітка быў даступным і стабільным. Але пакуль у нас ёсць толькі адзін падобны клуб, які дзейнічае на еўрапейскім узроўні — "Рэзервацыя". Але і ў іх былі праблемы. А вось нядаўна гэты клуб зноў адкрыўся.

**— А што значыць, на тваю думку, еўрапейскі ўзровень?**

— Добрае памяшканне, належныя афармленне, арганізацыя. І самае галоўнае — каб клуб зарабляў не з бара, а з квіткоў, як гэта і адбываецца на Захадзе.

**— Але на Захадзе вельмі развітая шоу-культура. На Беларусі гэта ўсё пакуль што ў зародкавым стане. Што трэба зрабіць, каб удыхнуць жыццё ў беларускую шоу-культуру?**

— Ну, ты параўнаў нас і Захад. Хоць Беларусь і знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, але нам да яе яшчэ далёка. Але ж і ў нас адкрыліся факультэты, дзе навучаюць прафесійных прадзюсераў. Напрыклад, у Беларускай акадэміі мастацтваў. Але вынікі першых выпускаў амаль нічога не далі. На сёння ў Мінску дзейнічае толькі адна кампанія, якая ў стане праводзіць мерапрыемствы на блізкім да еўрапейскага ўзроўні — гэта "Джас-Крафт Клас Клуб" пад кіраўніцтвам Генадзя Шульмана. Безумоўна, існуюць разнастайныя прадзюсерскія цэнтры, студыя гуказапісу, але гэта слаба.

**— А чаму так адбываецца?**

— Таму, што ў большасці нашых шоу-арганізатараў бракуе беларускай самасвядомасці. Усе раўняюцца на Захад альбо на Расію. А я лічу, што трэба пачынаць з цэнтра, з нас саміх, з Беларусі.

**Даставаў пытаннямі**
**Сямён ПТАХ**

# ІНТЭР-РОК, ТО-БОК РОК У ІНТЭРНАЦЕ

***Вельмі цікавую акцыю арганізавала для студэнтаў-першакурснікаў кафедра беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта, — канцэрт "Рок-музыкі — студэнтам". Акцыя, што праходзіла ў інтэрнаце №2, распачала серыю падобных імпрэз, што маюць на мэце прыцягнуць увагу студэнтаў з глыбінкі да сучаснай беларускай рок-культуры, да сучаснай беларускай паэзіі і, увогуле, да беларускай урбаністычнай культуры. На першым канцэрце гралі гурты "ЖАХ", "Карт бланш" і "Інтэльмедыя", таксама выступаў паэт Віктар Жыбуль.***

***Студэнтам канцэрт прыйшоўся даспадобы. А вось што думаў і адчуваў падчас яго адзін з выканаўцаў. Расказвае вакаліст гурта "Карт бланш", саўдзельнік гуртоў "Інтэльмедыя" і "Золак" Руслан БАЁК:***

— Мой андэграўнд музычны, і складаецца ён з творчых асоб, маіх аднадумцаў, нягледзячы на тое, што час ад часу мы не сыходзімся ў поглядах і густах. Андэграўнд з'яўляецца нашым месцам знаходжання не таму, што наша творчасць разлічана на абмежаваную колькасць прыхільнікаў, а таму, што ўсё пачынаецца з андэграўнда, там працягваецца, а можа, там і сканчваецца ці (як здарылася з некаторымі) выходзіць за яго межы. І нас кідае паміж рознымі месцамі і пляцоўкамі, а гукі родных акордаў афарбоўваюць жыццё ў асаблівае адценне, і кожны раз ці то рэпетыцыя, ці то нейкая дробязная акцыя — новая фарба.

Клічуць: "Эй, андэграўнд, хадзі да нас!" Пераканаешся, што клічуць менавіта цябе, заганарышся (я патрэбны!). Прапаноўваюць — можна сыграць. Тым больш у зале Тэхналагічнага. Але за апошні час прапанова звужаецца да пакоя на 80 асоб у інтэрнаце. Ну што рабіць... Затое гурт "ЖАХ" — старыя сябры, і вельмі прыемна пайграць у адным месцы, тым больш раней гралі не толькі на адных пляцоўках, але і ў складзе адзінага гурта.

Рэпетыцыя — сёння "Карт бланш", але не чуваць голасу за бубнамі і гітарамі — добра, каб такое было бядой толькі гэтай залы. Заўтра "ЖАХ" — бубны камп'ютэрныя, голас чуваць добра і ўвогуле больш-менш усё адладжана, "Інтэльмедыя" — на апошніх хвілінах перад выступам. Музыкі амаль нічога не разумеюць, але граць трэба.



Рок-гурт "ЖАХ". Валянцін Саўранчук (акустычная гітара, вакал) і Алег Кудзін (гітара).



Рок-гурт "Інтэльмедыя". Віталь Комін (гітара) і Руслан Баёк (вакал).

Канцэрт — "ЖАХ" першы. А мы з музыкамі акупавалі закутак у калідоры, падаставалі інструменты. Тым часам з залы выплываюць гукі, не цяжкія па гучанні, але цяжкія для ўспрымання непадрыхтаванага слухача. Тут нельга слухаць асобна гітару ці вакал — трэба ўспрымаць усё цалкам, і нават болей чым цалкам, а пажадана параўноўваць свае адчуванні з чымсьці звышмузычным, і тады разумееш, чаму я "ўзлятаю сінім матыльком", ці чаму "кропляць мазгі".

Неўзабаве наш выступ, іду праз натоўп — ба!!!— знаёмы твар — Уладзіміраў Павал — гурт "Млын", ну, як жа не павітацца!

— Слухай, што за абы-што там робіцца... Хіба гэта вакаліст, гэта мяне ўвогуле не кранае.

Я не жадаю, у сваю чаргу, спрачацца з ім — колькі людзей, столькі густаў, але наконт складанасці мелодыкі — цяжка не пагадзіцца.

"ЖАХ" скончыў сваю сённяшнюю праграму. Пайшлі апладысменты, нават пачуўся заклік "біс". Але "Карт бланш" на сцэне. Праз хвіліну ён напаўняе прастору атмасферай готыкі. Адна дзяўчына прыўзнялася на крэсле, хлопец дэманструе штосьці падобнае да сучаснага танца. Адбываецца энергаабмен між сцэнай і залай. А ён і прымушае музыканта пагаджацца са становішчам андэграўнда.

"Карт бланш" дэманструе свае апошнія набыткі ў блюзе ды фолку, збіраецца і сыходзіць у раней акупаваны куток.

Віктар Жыбуль — ну, гэта вельмі сур'ёзная асоба, пры тым пры ўсім апранутая ў нейкую асаблівую паэтычную вопратку гумару, які здаецца жарсткаватым у аповедзе пра "мяса", як мэта жаданняў студэнтаў, і нават змрочным, калі Віктар сцвярджае:"Я — мярцвяк", што суправаджаецца здаровым смехам публікі.

Пасля ўвагу залы захоплівае гурт "Інтэльмедыя". Яго гук больш напружаны і больш рытмізаваны. Слухачы пачынаюць рухацца актыўней. Гурт "Інтэльмедыя" адыграў свае рэчы, як кажуць без пытанняў. Але ж лідэр-гітарыст гурта Віталь Комін знікае ў незадавальненні.

Ну, а далей як паводле сцэнарыя:

— Прабачце, аўтограф можна?..

Да наступнай сустрэчы, мой андэграўнд.






# СТВОРЫМ БАНК ВУНДЭРКІНДАЎ!

Візітнай карткай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца яе мастацтва. Мастацтва маладых займае ў ім пачэснае месца. Таму падтрымка творчасці юных талентаў мае ўсе падставы быць па-сапраўднаму дзяржаўнай задачай.

У рэспубліцы назапашаны самы разнастайны вопыт работы з юнымі талентамі. Праводзіцца вялікая работа па пошуку адораных дзяцей і падлеткаў, ажыццяўляецца іх навучанне, ствараюцца ўмовы для развіцця здольнасцяў.

Прыкладам таму могуць служыць узнагароды, атрыманыя юнымі талентамі на нядаўніх міжнародных конкурсах: Гран-пры і першая прэмія Міжнароднага конкурсу вышэйшых школ музыкі і вышэйшых школ мастацтваў у Японіі (1997 г.) сярод піяністаў Сяргея Смірнова (выпускнік музычнага ліцэя, сёння студэнт Беларускай акадэміі музыкі; педагог У. Няхаенка), званне лаўрэата на Міжнародным конкурсе імя І. Менухіна (Францыя, 1998 г.) Алега Яцыны (вучань Рэспубліканскага музычнага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай Акадэміі музыкі; педагог Л.Умнова), званне дыпламантаў-лаўрэатаў Міжнароднага фестывалю-конкурсу ансамблевай гітарнай музыкі ў Польшчы (1997 г.) Таццяны Рыжковай і Мікіты Максімчыка — навучэнцаў дзіцячай музычнай школы № 2 г. Мінска (педагог В.Громаў).

Аднак пры ўсім шматаблічны формаў работы з творча-адоранымі дзецьмі ўзнікла неабходнасць аб'яднання намаганняў па ўдасканаленні сістэмы пошуку і адбору таленавітых дзяцей і каардынацыі гэтай дзейнасці.

Для вырашэння гэтых задач Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь пры садзеянні спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі створаны Цэнтр па рабоце з адоранымі дзецьмі і таленавітай моладдзю пры Беларускім інстытуце праблем культуры. Цэнтр ахоплівае работу з дзецьмі і юнакамі ад 6 да 20 гадоў па наступных напрамках:

— музычнае мастацтва;
— харэаграфія;
— выяўленчае мастацтва,

і ставіць перад сабой наступныя задачы:

— пошук і вызначэнне адораных дзяцей і таленавітай моладзі;
— стварэнне банка дадзеных;



Алег Яцына.



Таццяна Рыжкова і Мікіта Максімчык.

— прасочванне творчага станаўлення адораных дзяцей;
— прапаганда педагагічнага вопыту выкладчыкаў, якія працуюць з адоранымі дзецьмі;
— падтрымка творчасці юных талентаў;
— навучанне выкарыстанню найноўшых камп'ютэрных мультымедыйных тэхналогій у творчасці.

Для рэалізацыі дадзеных задач цэнтр плануе праводзіць конкурсы самых розных узроўняў, канцэрты, канцэрты-прэзентацыі, выставы, майстар-класы таленавітых педагогаў, якія валодаюць індывідуальнай методыкай работы з адоранымі дзецьмі, паказ таленавітых дзяцей у тэлеперадачах, стварэнне сістэмы навучання адораных дзяцей і моладзі мультымедыя- і Інтэрнет-тэхналогіям з выхадам лепшых прац на Рэспубліканскі конкурс.

Для стварэння банка дадзеных цэнтр распрацаваў анкету. Мы звяртаемся да ўсіх раённых аддзелаў культуры, да кіраўнікоў навучальных устаноў, творчых арганізацый, што працуюць з дзецьмі, па дапамогу — паскорце адпраўку анкет па адрасе:

***220086, г.Мінск, вул Каліноўскага, 12, пакой 69, Цэнтр па рабоце з адоранымі дзецьмі і таленавітай моладдзю.***

Для прапаганды і падтрымкі творчасці таленавітых дзяцей і моладзі цэнтр гатовы супрацоўнічаць з навучальнымі ўстановамі, творчымі саюзамі, аналагічнымі цэнтрамі ў блізкім ці далёкім замежжы.

Цэнтр будзе рады вітаць спонсараў, якія праявяць жаданне супрацоўнічаць з намі. Будзем рады ўсім прапановам, скіраваным на ўдасканаленне работы цэнтра.

Даўно стала звыклым паняцце, што дзеці — нашая будучыня, але й насамрэч гэта так. Сёння ў нас маецца магчымасць ствараць сваю будучыню, але рабіць гэта мы павінны сумеснымі намаганнямі.

**Антаніна СЦЯПЫЧКІНА, кіраўнік Цэнтра па рабоце з адоранымі дзецьмі і таленавітай моладзю.**

АНКЕТА
1. Прозвішча, імя, імя па бацьку ____________
2. Дзень, месяц і год нараджэння ____________
3. Хатні адрас і тэлефон ____________
4. Спецыяльнасць навучання ____________
5. Перамогі (лаўрэацтва) на конкурсах (раённых, гарадскіх, абласных, рэспубліканскіх, міжнародных) ____________
6. Адрас, тэлефон установы навучання ____________
7. Прозвішча, імя, імя па бацьку педагога, тэлефон ____________
8. Кандыдатура рэкамендавана для занясення ў банк дадзеных ____________
*(назва ўстановы)*
9. Хадайніцтва падтрымліваюць ____________
Дырэктар навучальнай установы ____________
Гарадское (раённае, абласное) упраўленне культуры
____________
М.П.

# ІМІДЖ "РАДЫЁ-РОКС"

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 7)*

— На мой погляд — праца дзі-джэяў. Я лічу, што ў гэтым і заключаецца прывабнасць нашай станцыі, калі ў эфіры свабодна размаўляюць са слухачамі жывыя і разумныя людзі. А гульні —гэта другаснае, і стаўлюся да іх я адмоўна.

**— Як з'явіліся на "Радыё-Рокс" дзі-джэі Зоня Хольберг і Джымі Нэльсан?**

— З Джымі мы пазнаёміліся на дыскатэцы. Вельмі сімпатычны малады чалавек. А Зоня — гэта маленькая таямніца праграмы "Юніполіс".

**— Што ўплывае на выбар музычнага матэрыялу, які выходзіць у эфір?**

— Мы выбралі свой фармат — рокавы. Гучыць і іншая музыка, але імкнемся не дапускаць таннай папсы. Марым сеяць добрае, выхоўваць сярод моладзі разумных, інтэлігентных людзей. Але для гэтага нам самім яшчэ трэба вучыцца.

Нягледзячы на сваю маладосць, жыццярадаснасць і бесклапотнасць у эфіры, роксаўцы вельмі сур'ёзна ставяцца да сваёй працы. Калі вы думаеце, што музыка, якая гучыць у эфіры — вынік спантаннага, суб'ектыўнага выбару дзі-джэяў, дык вы глыбока памыляецеся. У роксаўцаў усё разлічана з навуковай дакладнасцю: днём павінна гучаць адна музыка, увечары — другая, уначы — трэцяя. Дапамагае дзі-джэям абраць тую ці іншую кампазіцыю камп'ютэр, які складае для іх play-лісты. Па такой сістэме ўжо даўно працуюць замежныя радыёстанцыі, а для роксаўцаў гэта толькі першыя спробы. Зразумела, гэта вельмі палягчае працу дзі-джэяў, якая і без гэтага поўная цяжкасцей. Аказваецца, дзі-джэі "Радыё-Рокс" працуюць без гукарэжысёраў, самнасам з вялікай колькасцю апаратуры: мікрафон, камп'ютэр, пульт, джынгл-машына. Як сказаў Сяргей Прохараў, усё, што гучыць у эфіры, робіцца ўсімі часткамі цела і пры гэтым адначасова. Хіба што ногі не ўдзельнічаюць.



Сяргей Прохараў.

Сяргей Прохараў — адзін з вядучых дзі-джэяў на радыёстанцыі. Роксаўцы пяшчотна называюць яго "наш інтэлектуал".

**— Выбар музыкі на "Радыё-Рокс" здзяйсняе машына. Вас гэта не бянтэжыць?**

— Гэта не зусім так. Выбіраем музыку мы самі і закладваем дадзеныя ў камп'ютэр, які нам выдае аптымальны варыянт на play-лістах. Мы маем права карэкціраваць гэтыя лісты па сваім гусце, не выходзячы за вызначаны фармат нашай хвалі. Права выбару крыху абмежавана, і гэта правільна. Так, я вельмі люблю групы "Kings", ранні "Genesis", "Piter Gabrial". Але я вельмі добра разумею, што калі пачну ставіць музыку, якая падабаецца асабіста мне, дык палова прыёмнікаў будзе тут жа выключана.

**— Наколькі аператыўна "Радыё-Рокс" рэагуе на з'яўленне музычных навінак за мяжой?**

— Я магу проста пахваліцца. У Мінску мы першыя атрымліваем амерыканскія і еўрапейскія хіты. Як правіла, хіты ў нас з'яўляюцца нават раней, чым яны пачынаюць гучаць там.

**— Чаму на "Радыё-Рокс" гучыць пераважна замежная музыка?**

— Мы б з радасцю круцілі такія беларускія гурты, як "Крама", "Тройца", "Нейро Дюбель", Кавалёва і іншых, калі б іх запісы былі на высокім узроўні, як тэхнічным, так і якасным. Расійскае музычнае мастацтва моцна падпарадкаванае камерцыйнай ідэі, таму абсалютная большасць песень нам не цікавая. А пастаянна круціць "Машину времени", "Чижа и компанию", ДДТ, "Аквариум" — таксама не выйсце.

**— Ці ёсць у "Радыё-Рокс" канкурэнты?**

— Безумоўна, ёсць. Кожная станцыя, якая працуе ў FM-дыяпазоне, з'яўляецца нашым канкурэнтам. Але трэба памятаць, што, зніжаючы вартасці сваіх суседзяў па FM-эфіры, ты рызыкуеш у нейкі момант проста прапусціць іх імклівы рост і апынуцца ззаду.

**Аксана КРАСНІК, студэнтка Беларускай акадэміі музыкі**

# "ЛЕСВІЦА Ў НЕБА", альбо АБ ЧЫМ ДУМАЮЦЬ СВАВОЛЬНЫЯ МАСТАКІ

***У Брэсце па вуліцы Гогаля, 54, у будынку XIX стагоддзя, дзе апошнія гады месціліся мастацкія майстэрні, адбылася акцыя "Чацвёра і Вішнёў-аб'ект". Зладзілі праект галерэя "Бергамот", брэсцкае культурна-асветніцкае згуртаванне "Маладзік" і Брэсцкая абласная арганізацыя Беларускага Саюза мастакоў. Восем невялічкіх залаў двухпавярховіка ў кантэксце акцыі былі ўжо жывой фактурай. Барыс Пракапенка (Мінск), Раман Трацюк (Брэст), Вольга Маслоўская (Брэст), Марыян Стэмпак (Торунь), Максім Тарасюк (Брэст) і Вішнёў-аб'ект (Мінск) прадставілі кожны свой перфоманс, інсталяцыі, фотаздымкі і графіку.***

Так атрымалася, што гэтую акцыю зладзілі творцы з рознымі эстэтычнымі поглядамі на мастацтва. Тут, вядома, ёсць свае мінусы і плюсы. Таму мусім канстатаваць, што экспазіцыйная частка акцыі атрымалася не зусім цэласнай. Узнікала агульнае ўражанне, нібыта праводзіліся нейкія дыверсіі, каб сапсаваць рэйкавыя шляхі для цягнікоў ад мастацтва.



Фрагмент экспазіцыі Рамана Трацюка і Вольгі Маслоўскай.

На адкрыцці ў зале-фае гледача сустрэлі творы Рамана Трацюка, Вольгі Маслоўскай і частка жывой экспазіцыі праекта культу асобы Зміцера Вішнёва — укрыжаваная на сцяне "дыхаючая мумія Вішнёва". Побач былі прышпілены забінтаваныя парасон, капялюх і торбфель. Варта зазначыць, што мумія была прыбітая толькі за вопратку. Калі праз дзверы хлынуў натоўп, да муміі падышоў чалавек і зрэзаў на ёй верхняе адзенне. Такім чынам, яна засталася толькі ў бінтах, прачнулася ад сну, сцягнула са сцяны торбфель... у гэты самы момант з суседняга пакоя з дынамікаў загучаў голас Вішнёва, які чытаў тэкст "Шчыры чалавек". Падчас гэтага мумія выцягвала з торбфеля візуальныя вершы і кавалкі шкла, якія яна раскідвала і таптала. Калі змоўк магнітафонны голас, мумія знайшла ў торбфелі раздрукаваны на паперы тэкст "Шчыры чалавек" і пачала яго чытаць. Пры гэтым замест мікрафона быў скарыстаны забінтаваны слоік, куды і складваўся паветраны тэкст "Шчыры чалавек". Потым на слоік мумія нацягнула накрыўку і рытуальна ўстала на калені, прычым яе рукі, як тэлефонны дрот, выпрасталіся ў бок насценнага контура Вішнёва...

Вольга Маслоўская прадставіла публіцы "Лесвіцу ў неба" і "Непаладкі". Абодва творы прасякнуты любоўю да альпінізму. У першым выпадку дзве лесвіцы з элементамі цэлафану як бы дораць пацалункі трубам, што размешчаны побач. Адначасова тут назіраецца жаданне пракласці дарогу да небастыку. Дамаляваныя на сцяне контуры лесвіцы сімвалізуюць вострую патрэбу чалавека здзяйсняць свае мары насуперак усяму. Дарэчы, карані ад чатырох старых дрэваў з накладзеным на іх макіяжам ад Рамана Трацюка кампазіцыйна замкнулі гэтую частку прасторы.

Інсталяцыя Вольгі Маслоўскай "Непаладкі" нагадала мне некаторыя іншыя, што былі выстаўленыя на апошніх віцебскіх фэстах "In-formation". Навацыя тут грунтуецца зноў жа на лесвіцах. Аўтарка прапануе гледачу пералезці па іх у пакой з вяровачнымі кратамі, каб адчуць атмасферу знявoленасці. Тэлевізар і бітае шкло, вёдры і цэмент мяжуюць з норкамі пацукоў... Нездарма ж мастацтвазнаўца з Кобрына Валянціна Шахалевіч прычапіла на дзвярах улётку, дзе абвясціла, што дзейнасць самарыцян адгукнецца на дадзенай акцыі, і гэта будзе шлях да творчай перамогі.

Адна зала была аддадзена пад выяўленчы праект культа асобы Зміцера Вішнёва — паласатыя трубы і батарэі, балеі, венцілі, скрыні, бінты. Інсталяцыі і аб'екты ўяўляюць сабой замкнёны цыкл дзейнасці геніяў. Паўсюль незлічоная колькасць аднолькавых помнікаў і бюстаў...

Марыян Стэмпак быў, безумоўна, цікавы як для мастакоў, так і для наведнікаў, бо ён мае вялікі вопыт удзелу ў выставах і акцыях. Стэмпак зрабіў дзве інсталяцыі "Свет неабыякавы". Як падалося, больш удалай была зробленая з рознакаляровага шкла. Каляровая важкасць, шматсэнсоўнасць інсталяцыі моцна вылучылі яе сярод іншых праектаў.

Раман Трацюк выставіў сорак фотаздымкаў. Бясспрэчна, што іх эстэтыка належыць да падобнага роду акцый. Але, па словах мастацтвазнаўцы Ірыны Бігдай, што прыехала з Мінска, прастора з фотаздымкамі была перагрувашчаная сімваламі і вобразамі. З ёй можна пагадзіцца, да таго ж і дрэннае асвятленне не надта спрыяла разгляду твораў. Таму мастак перад залай з фотаздымкамі выдаваў наведнікам запальнічкі.

Барыс Пракапенка прыехаў самым апошнім з удзельнікаў, таму часу на падрыхтоўку яму неставала. Канцэпцыі да сваіх твораў ён не прадставіў, а запрапанаваў самім журналістам яе прыдумаць...

**Астап ГРУША**

***Такія канфлікты былі, ёсць і будуць. Неаднойчы даводзілася сутыкацца з фактамі, калі жыхары жылога дома, у якім “прапісана”, так бы мовіць, “шумная” ўстанова — рэстаран, кафэ, клуб, — рэгулярна скардзяцца ва ўсе інстанцыі — домакіраўніцтва, райвыканкам, сродкі масавай інфармацыі, — што музыка, якая гучыць і днём, і вечарам, перашкаджае ім нармальна жыць. І гэта робіцца нягледзячы на тое, што кіраўніцтва такіх устаноў робіць усё, каб гукаізаляцыя была адпаведная і надзейная. Упершыню сутыкнуўся з такой непрымірымай вайной жыхароў дома і адміністрацыі кафэ “Планета” (вул.Берасцянская, 17) шмат гадоў таму. Вайна, як кажуць, ішла не на жыццё, а на смерць. Жыхары ўсё ж перамаглі. Праўда, там былі і іншыя фактары, якія толькі дапаўнялі — у негатыўным плане — шум ад музыкі. Канешне, можна зразумець таго-сяго з жыхароў, якім патрэбна цішыня за вокнамі ўласнай кватэры і ў кватэрах суседзяў. Але ж, будзем шчырымі, часам тэлевізар суседа ці машыны, якія суткі напралёт шоргаюць па вуліцы пад акном, могуць “рыкаць” больш гучна, чым тая ж дыскатэка ў клубе.***

У гэтым я пераканаўся на свае ўласныя вушы, калі быў у Мінскім абутковым асобным акцыянерным таварыстве “Прамень” і знаёміўся з дзейнасцю яго клуба. І ў дадзеным выпадку не ўсім жыхарам дома № 28 па вуліцы Няміга падабаецца, што на другім паверсе суседняга будынка знаходзіцца вышэйпамянёны клуб. Вось і скардзяцца яны, што вечары і дыскатэкі перашкаджаюць ім адпачываць. Але ж, як я гаварыў, з гукаізаляцыяй там, на мой погляд, больш-менш усё нармальна, бо якраз гэтым у першую чаргу і заняліся хлопцы з гурта “Біг рэй”, пра якія скажу ніжэй. Так што, відаць, і гарод гарадзіць няма чаго.

Яшчэ адна праблема, якая хвалюе дырэктара клуба Ірыну Тарасік, — рамонт памяшкання. Справа тармозіцца з-за адсутнасці патрэбнай колькасці грошай. Хаця кіраўніцтва прадпрыемства на чале з прэзідэнтам таварыства Вячаславам Вернікоўскім і дырэктарам дырэкцыі МАААТ “Прамень” Людмілай Галаватчык робіць усё, што толькі можна, каб дапамагчы свайму клубу-ветэрану (існуе ён пасля аднаўлення вось ужо 50 гадоў).

Цяпер клуб перайшоў на самаакупляльнасць. Дзейнічаюць пяць гурткоў бальнага танца, у якіх займаюцца больш за 100 чалавек. Здаецца клубнае памяшканне хору ўкраінскай песні. Грошы вялікія за гэтую арэнду не бяруцца, але па дамоўленасці ў хоры бяруць удзел і працаўнікі таварыства. Да таго ж — школа ігры на гітары, у якой займаецца ў асноўным моладзь, гурток аэробікі. Апошні вядзе майстар спорту Таццяна Карнялюк, а наведваюць яго не толькі “кватэранаймальнікі” з Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, але і рабочыя з МАААТ “Прамень”.

Дазволю сабе працытаваць ліст, адрасаваны прэзідэнту МАААТ “Прамень”: “Адміністрацыя СП “Гандлёвы дом “На Нямізе” выказвае вялікую ўдзячнасць дырэктару клуба Тарасік І.І. за прадастаўленую магчымасць праводзіць у актавай зале рэпетыцыі каманды нашага прадпрыемства ў перыяд падрыхтоўкі да гарадскога конкурсу прафесійнага майстэрства на лепшага прадаўца. У многім дзякуючы рэпетыцыям у клубе МАААТ “Прамень” прадаўцы нашай каманды занялі прызавое месца і ў бліжэйшы час возьмуць удзел у рэспубліканскім конкурсе прафесійнага майстэрства ў г.Брэсце”.

На Новы год мяркуецца ахапіць культурнымі мерапрыемствамі не толькі саміх працаўнікоў таварыства — і маладых, і сталага ўзросту, але і іхніх дзяцей.

Новы крок на шляху ўдасканалення сваёй дзейнасці работнікі клуба зрабілі шляхам прыцягнення да супрацоўніцтва гурта “Біг рэй”, які праявіў сябе яшчэ падчас вечара да 80-годдзя камсамола, калі хлопцы адпрацавалі бясплатна. 6-га лістапада ўжо ладзілася начная дыскатэка, якая прыйшлася даспадобы яе наведнікам.

— Мы пайшлі на кантакт з клубам не толькі таму, што будынак размешчаны, лічыце, у самым цэнтры горада і сюды лёгка дабрацца, — гаворыць кіраўнік “Біг рэя” Раман Лысенка. — Лёгка працаваць з кіраўніцтвам гэтай культурнай установы. А задача наша агульная — узнімаць духоўны ўзровень моладзі.

Зраблю невялікае адступленне. Існуе меркаванне, што часцяком менавіта для моладзі ладзіцца работа клубаў і дамоў культуры. Але ж даводзілася сутыкацца з фактамі, калі работнікі культустаноў былі далёкія ад інтарэсаў моладзі, не падтрымлівалі з ёй сувязей. Як правіла, у такіх клубах і дамах культуры задавольваліся даволі абмежаванымі і прымітыўнымі формамі дзейнасці: сходы і вечарыны перад святамі, танцы, кіно. Гэтага, зразумела, мала. Здаецца, пакліч моладзь — і яна прыйдзе ў гурткі мастацкай самадзейнасці, дапаможа наладзіць цікавыя мерапрыемствы. Аднак жа калі-некалі яны існуюць самі па сабе — моладзь і культустанова, моладзь адпачывае па-свойму, бо яе энтузіязм не падтрымліваецца стварэннем адпаведных умоў.

— На нашым прадпрыемстве працуе шмат моладзі, — гаворыць дырэктар клуба Ірына Тарасік, — але дзверы клуба адчынены не толькі для яе, але і для ўсіх жадаючых. Мы супраць закаснелага прынцыпу “не пушчаць!”, якім кіруюцца і цяпер яшчэ некаторыя людзі кіраўніцкага рангу: маўляў, не трэба дазваляць моладзі праводзіць вольны час на дыскатэках, тым больш, начных, бо гэта можа яе разбэсціць. Але ж давайце паглядзім, што мы прапануем на гэтых самых дыскатэках. У нас і адпачыць пад музыку можна, і лекцыю паслухаць, і моды паглядзець. Усё ж такі клуб — культурная ўстанова. Менавіта гэты яе статус сцвярджаць ва ўсім і заўсёды — наш абавязак, што мы і імкнемся рабіць. Мяркую, цесны, плённы кантакт з гуртом “Біг рэй” яшчэ больш дапаможа нам у гэтым накірунку. Шчыра спадзяюся на гэта.

У планах Ірыны Тарасік і мастацкага кіраўніка Настассі Клямінскай — адкрыццё клуба знаёмстваў, курсаў англійскай мовы, студыі сучаснага танца з элементамі пластыкі і іншае. Цяжкасці і праблемы ёсць. Але ўсе мае суразмоўцы поўныя аптымізму, імкнення зрабіць свой клуб сапраўдным культурным цэнтрам. Бог у помач, як кажуць.

**Валер ЯТРОВІЧ**

# “ПРАМЕНЬ”, “БІГ РЭЙ” І ІНШЫЯ...

***Куды кіруецца моладзь, калі выпадае вольная часіна? У пераважнай большасці — на дыскатэкі, якія ладзяцца літаральна ў кожным Доме ці Палацы культуры. Пра дзве ўстановы такога кшталту, а менавіта — клуб Мінскага абутковага асобнага акцыянернага таварыства “Прамень” і Палац культуры “Усход” Мінскага трактарнага завода, — наш аповед.***



# ПРЫХОДЗЬЦЕ, ВАМ СПАДАБАЕЦЦА!

***У метро маю ўвагу прыцягнула аб’ява: “У Палацы культуры МТЗ па вул.Даўгабродскай, 23, адбудзецца прэзентацыя шоу-дыскатэкі “Арлекіна”.***

***Магчыма, чытачы ведаюць што-небудзь пра гаротнае становішча Палаца культуры трактарнага завода. Яшчэ зусім нядаўна дзверы тут не зачыняліся і не адчыняліся, тынкоўка вялікімі кавалкамі адвальвалася ад фасада будынка. Але цяпер Палац культуры “Усход” не пазнаць: падноўлены будынак ззяе белым пластыкам параднага ўваходу (дзверы замянілі да юбілею МТЗ). Агульнае ўражанне сапсаваў толькі свірнавы замок на дзвярах былой крамы “Узгорак”, якая месцілася на заднім дворыку Палаца.***

***Настрой сапсаваўся? Але ён узнімецца, варта толькі ўвайсці ў сярэдзіну будынка са службовага ўваходу: па лесвіцах ходзяць рабочыя, запэцканыя пабелкай, ад іх пахне габлюшкай і шпалерным клеем...***

***Атмасфера ў кабінеце дырэктара Палаца Леаніда Пушынскага схіляла да сур’ёзнай размовы.***

**— Леанід Мікалаевіч, як ідуць справы сёння?**

— Цяпер многія культурныя ўстановы пастаўлены ва ўмовы самавыжывання. І ў дадзены момант ідзе рэарганізацыя Палаца культуры “Усход” у дзяржаўнае дачэрняе прадпрыемства-філіял МТЗ “Культсервіс”. Наш фундатар — завод у асобе галоўнага дырэктара Міхаіла Лявонава. Ён не забываецца на нас, дапамагае, чым можа. Гэты чалавек добра адчувае сацыяльную сферу, і можна смела сцвярджаць, што ён адпавядае патрабаванням часу. За што мы яму ўдзячныя. Але патрабаваць шмат чаго ад фундатара мы не маем права, бо ў завода і без нас хапае праблем.

**— Якія змены адбыліся з вашым прыходам на пасаду дырэктара ДП МТЗ “Культсервіс”?**

— Сёлета з 1 верасня пачалося пераасэнсаванне статуса Палаца культуры. Раней было так: уносіш ты новыя тэндэнцыі ў развіццё культурнай праграмы альбо не — атрымліваеш свой заробак. Сёння ж усім кіруе рынак: хочаш працаваць — думай, як зрабіць так, каб да цябе прыйшлі ў наступны раз і не пашкадавалі аб гэтым. З гэтай мэтай у Палац культуры МТЗ прыцягнутыя адпаведныя спецыялісты — дызайнер і менеджэр па рэкламе і эканоміцы. Пачаты касметычны рамонт унутраных памяшканняў Палаца. Завезены гульнёвыя аўтаматы. І, ведаеце, Палац пачаў пастунова ажываць. Працуе кафэ “Час”. У будзённыя дні яно абслугоўвае 300 — 350 чалавек, у выхадныя ж колькасць наведнікаў павялічваецца. Акрамя гэтага, пастаянна функцыянуе школа бальнага танца. Спадзяемся, што неўзабаве яна набудзе статус дзяржаўнай, таму што ў нас ёсць што паказаць і чаму павучыць. Школай бальнага танца кіруе Лідзія Лазарава — заслужаны работнік культуры РБ.

**— Якія яшчэ задумы знаходзяцца ў стадыі завяршэння?**

— Мы “запусцілі” канцэртную залу ўмяшчальнасцю 770 месцаў да 7 лістапада 1998 года. Я маю на ўвазе святло, гук, дэкарацыі і грымёркі. Чаму да гэтага дня? Бо 7 лістапада ў канцэртнай зале Палаца культуры МТЗ прагучала араторыя “Месія” ў выкананні камернага хору “Унтэрмайн” з Германіі пад кіраўніцтвам Готфрыда Кернера.

**— Чым выклікана стварэнне шоу-дыскатэкі “Арлекіна”?**

— Моладзь патрабуе да сябе асаблівага падыходу. Асабіста я мяркую, што трэба прыцягваць яе да мастацтва, але без прымусу — права выбару захоўваецца за маладымі. А наша справа — прапаноўваць ім штосьці незвычайнае. І мы прапаноўваем канцэртную праграму з удзелам калектыву сучаснага танца “Качаткоў-тэатр”, вакальна-інструментальнага ансамбля “Сімпатыя”, поп-групы з Беларускага універсітэта культуры, ансамбля песні і танца “Вязынка”, ансамбля лаціна-амерыканскіх рытмаў “Лібертад”, школы бальных танцаў “Мара”, груп падтрымкі “Кардон” і “Лямонс”, а таксама эстрадных выканаўцаў: Руслана Мусвідаса, Юліі Басавай, Таццяны Ярмак і іншых. З цягам часу склад шоу абавязкова зменіцца. Усё будзе вырашаць публіка. Калі выканаўца падабаецца гледачам, ён будзе ўдзельнічаць у шоу, а калі попыту няма — значыць не. Кошт квітка складае палову кошту квіткоў у гарадскіх дыскатэках, бо мы працуем на “сярэдняга” наведніка. Прыходзьце. Мы ўпэўнены, што вам спадабаецца.

**Дар’я ШЫЦІКАВА**

**P.S.** Прэзентацыя прайшла на “ўра!”. Усе былі задаволеныя канцэртнай праграмай: што ні кажы, а жывы гук — вялікая справа...

**Д. Ш.**

# ВЯЛІКІЯ АДЫХОДЗЯЦЬ У ЛЕГЕНДУ

Як хутка ляціць час. Падумаць толькі, ужо некалькі гадоў, як пакінуў зямны свет цудоўны артыст Інакенцій Смактуноўскі. Усе яго ролі ў кіно захаплялі мяне. Які ён у іх розны і пераканаўчы! Сапраўды, амплітуда яго перуўвасаблення дзівосная. Але на тэатральнай сцэне бачыць Смактуноўскага мне не даводзілася.

І вось неяк я апынуўся ў Ленінградзе і трапіў на спектакль Маскоўскага Малога тэатра, які тады гастраляваў у памяшканні славутай Александрынкі. У той вечар ішоў "Цар Фёдар Іаанавіч". У галоўнай ролі Інакенцій Смактуноўскі. Канешне ж, усе імкнуліся ўбачыць любімага артыста, які калісьці пакарыў іх сваім Ідыётам. Я быў сведкам таго, як людзі ўгаворвалі адміністратара за любыя грошы пусціць іх хаця б пастаяць у зале. Славуты Цялевіч (такое прозвішча адміністратара), які быў знакаміты сваімі пагаворкамі і прымаўкамі-жартамі, што больш за ўсіх падабаліся яму самому, адчуваў сябе Напалеонам на камандным пункце бітвы. Але вось ён ужо ўсіх уладкаваў, каго куды, і спектакль пачаўся.

Да гэтага мне вельмі падабаўся ў фрагменце спектакля старога МХАТа выдатны рускі артыст Іван Міхайлавіч Масквін у ролі Фёдара. У ім адчувалася нейкая дзіцячая безабароннасць. Фёдар Смактуноўскага падаўся мне разважлівым, здольным да інтэлектуальнага роздуму. Ён не выцесніў з маёй памяці захаплення Масквіным. Ён зусім іншы. Спектакль прайшоў з грандыёзным поспехам. Я быў рады, што пабачыў Смактуноўскага ў тэатры, а не толькі ў кіно.

Па заканчэнні пайшоў за кулісы. Тут я павінен растлумачыць, што для мяне гэта было проста, бо ў Малым тэатры працаваў мой зяць, папулярны артыст кіно Раман Філіпаў, які некалькі гадоў пераходзіў у склад трупы тэатра імя Янкі Купалы. Многія памятаюць, напэўна, як ён выдатна выканаўцу ролі Распуціна ў тэлевізійным спектаклі "Крах". Я заўсёды заходзіў да яго пасля спектакляў. Дзякуючы гэтаму пазнаёміўся з многімі вядомымі акцёрамі: У.Кенігсонам, Я.Веснікам, В.Барцовым.

У той вечар, памятаю, пачаставаў піражком з капустай, прыдбаным у закулісным буфеце, Мікіту Падгорнага — цудоўнага Ганечку ў знакамітым фільме "Ідыёт". Але Смактуноўскага пабачыць не давялося. А назаўтра раніцай за сняданнем мы з Раманам апынуліся за адным сталом з Інакенціем Міхайлавічам. Раман прадставіў мяне як беларускую знакамітасць, той павітаўся прыветна. Пакуль снедалі, шмат пра што гаварылі. Мне, натуральна, захацелася мець аўтограф выдатнага артыста. Папрасіў яго занатаваць нашую сустрэчу і падсунуў маё пасведчанне ўдзельніка конкурсу імя Чайкоўскага. Ён выбраў верхнюю частку, яшчэ не запоўненую, і распісаўся вялікімі літарамі размашыста, ва ўсю шырыню. Падзякаваўшы, я пажартаваў, што калі-небудзь дорага прадам збор аўтографаў, якімі валодаю. Інакенцій Міхайлавіч усміхнуўся сваёй смактуноўскай усмешкай і сказаў: "Ні ... (ён прамовіў слова з трох літар, якое часта ўжываецца ў народзе) не дадуць!.." Але гэтае слова з яго вуснаў прагучала неяк неарганічна: ён здаваўся мне занадта тонкім, інтэлігентным. Проста, відаць, захацеў выказацца па-народнаму. Хаця потым нехта казаў мне, што артыст ужываў вострыя выразы.



Сабраўшы са стала рэшткі хлеба, уладар глядацкіх сэрцаў пайшоў карміць галубоў у скверы ля тэатра, дзе стаіць Кацярына Вялікая. Я адзначыў, што ён у джынсах, і падумаў — наўрад ці іншы знакаміты артыст, славуты мхатавец Васіль Качалаў, так бы апрануўся. Але хто ведае? Час дыктуе свае норавы і моду.

Праз шмат гадоў пасля незабыўнага снедання мы зноў сустрэліся са Смактуноўскім ужо ў канцэрце нашай філармоніі. Вядомы дырыжор Віталь Катаеў, які калісьці ўзначальваў сімфанічны аркестр Беларусі, выконваў араторыю С.Пракоф'ева "Іван Грозны". Смактуноўскі выступаў у ролі чытальніка і так мяне ўразіў, што свайму водгуку ў газеце я даў загаловак "Канцэрт для Смактуноўскага з аркестрам". Гэта была значная падзея ў культурным жыцці Мінска. Інакенцій Міхайлавіч чытаў тэкст, складзены з фрагментаў знакамітага кінасцэнарыя С.Эйзенштэйна "Іван Грозны" і "Гісторыі Дзяржавы Расійскай" І.Карамзіна. Вялікі артыст упершыню выступіў у беларускай філармоніі. І хаця са сваімі задачамі выдатна справіліся і аркестр, і капэла імя Р.Шырмы, а таксама салісты і дырыжор, гэта быў, як мне падалося, монаспектакль Смактуноўскага. Яго магутны артыстычны дар перадаў і абставіны ў Расіі тых змрочных часоў, і атмасферу эпохі, і стан мяцежнай душы Івана Грознага. Чытальнік успрымаў і адчуваў музыку ўсёй сваёй сутнасцю. Нездарма, відаць, найвышэйшым дасягненнем у яго артыстычнай кар'еры сталі створаныя ім у фільмах вобразы двух геніяльных кампазітараў. Яго Моцарт і Чайкоўскі сыграны кангеніяльна іх тварэнням. Інакенцій Міхайлавіч падаўся мне чалавекам прыветлівым, абаяльным. Чаго варты быў яго зварот да публікі ў адказ на гарачы прыём: "Не будзем засмучацца тым, што не ўсе месцы ў зале занятыя. Затое, які якасны склад прысутных!" У мяне мільганула думка ўзяць яшчэ адзін аўтограф. Але ўспомніў яго стаўленне да гэтага, выказанае пры першай сустрэчы, і не стаў вымушаць госця напісаць некалькі дзяжурных слоў. Цяпер шкадую аб гэтым. У артыстычным пакоі мы прыгадалі страшэнную ўлеву, што літаральна залівала "град Пятра" ў той памятны вечар, калі публіка амаль уброд дабіралася ў тэатр на "Цара Фёдара". Успомнілі і пра тое, як перад пачаткам трэцяй дзеі, пасля таго як прагучаў у поўнай цемры хор з музыкі Г.Свірыдава да спектакля, усталявалася доўгая паўза. Потым зноў далі хор. У зале цішыня, цемра і пачало пахнуць дымам. Напружанне ўзрастала. Мы былі на спектаклі разам з дачкой Рамана Філіпава Анютай. А ён сам у той вечар іграў Голубасына. Я напаўшэптам сказаў ёй: "Калі пачнецца пажар, ратуемся праз гэтыя дзверы". Мы сядзелі на прыстаўных крэслах ля ўвахода. А ў зале ўсё мацней адчувалася, што нешта гарыць. І толькі пасля трэцяга выканання хору і доўгай паўзы заслона марудна, быццам міжволі пачала ўздымацца ўверх. Потым спынілася, адкрыўшы сцэну ўсяго на некалькі метраў, ад чаго яна стала падобнай да шырокага экрана ў кінатэатры. Публіка, што сядзела на балконах, не бачыла акцёраў, якія знаходзіліся ў глыбіні сцэны. Пачуліся воклічы: "Выйдзіце бліжэй да рампы!" Ад дыму казытала ў носе. Людзі пачалі кашляць. Вось у такой незвычайнай сітуацыі своеасаблівай дэкарацыі спектакль і завяршыўся.

Смактуноўскі ў касцюме Фёдара выйшаў на буру апладысментаў, доўга чакаў, пакуль яны сціхнуць, і папрасіў прабачэння за тое, што згарэла нейкая лябёдка, і таму заслона так да канца і не адкрыла сцэну, бо яе ўздымалі рукамі. Вось адкуль і дым. Новы гром апладысментаў, што ўзнік у зале, перагукаўся з навальнічнымі раскатамі...

Мы пасмяяліся, прыгадаў шы той незвычайны вечар, і развіталіся... Цяпер ужо назаўсёды. Я шчаслівы, што лёс падарыў мне гэтыя незабыўныя сустрэчы. Свой божы дар гэты вялікі артыст пакінуў людзям.

**Уладзімір ШЭЛІХІН**
**Фота з архіва аўтара**

И. Смоктуновский

Секретариат IV Международного конкурса имени П. И. Чайковского



Аўтограф

# "АЎСЯНКУ, СЭР!"



Фота Віктара ЗАЙКОЎСКАГА

Больш дзесяці гадоў таму са сцэны КВЗ выйшла каманда Адэскага універсітэта прызёрам-пераможцам, а праз месяц з'явіўся тэатр і тэлевізійная праграма "Джэнтльменшоу". Безумоўна, вобраз "сэраў з Адэсы" дапаўнялі і белыя шалікі... А праз пяць гадоў да гурта Алега Філімонава далучыўся і Сямён Маркавіч разам з жыхарамі камунальнай кватэры на Дзерыбасаўскай...

Зразумела, наша газета маладзейшая за тэрмін папулярнасці джэнтльменскага клуба, але не верыць адэсітам падстаў няма. Аказваецца, яны прыехалі ў Мінск не толькі па справах шоу і бізнесу, але і пацікавіцца таксама справамі падпіскі на "К" на 1999 год! Такой навіне мы паверылі адразу... як на Малой Арнаўцкай!

Читатели "Культуры"! Боритесь за культуру без кавычек. Ваши сэры из "Джентльмен-шоу"

Олег Филим...

Всегда Ваш Семён Маркович

О. Школ... лично



***Вядомаму скульптару Акіму Рыгоравічу Курачкіну нядаўна споўнілася 86 гадоў. Аўтар шматлікіх кампазіцый, партрэтаў і помнікаў ён шмат гадоў узначальваў у беларускім Саюзе мастакоў вайскова-шэфскую камісію, якая ў свой час была адной з самых дзейсных і актыўных ва ўсім Саюзе мастакоў СССР. Сведчанні гэтага — дзесяткі дыпломаў, ганаровых сцягоў, прызоў, грамат, каштоўных падарункаў ад Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, ад МУС і памежных войскаў. Менавіта дзякуючы гэтай камісіі многія нашыя мастакі “далучыліся” да вайскова-патрыятычнай тэмы і стварылі шэраг выдатных твораў пра вайну і будні тагачаснай арміі, міліцыі і памежнікаў. Сам Акім Курачкін перадаў у дар вайсковым часткам не адзін дзесятак сваіх скульптурных твораў.***

***Нядаўна Акім Рыгоравіч, адзін са старэйшых мастакоў, наведаў нашу рэдакцыю і прынёс свае ўспаміны пра Вялікую Айчынную вайну. “У лістападзе будзе адзначацца 60-гадовы юбілей нашага Саюза мастакоў, — сказаў ён. — І я б хацеў, каб гэтыя мемуары прачыталі не толькі мае калегі па разцы, франтавікі, але і іхнія ўнукі і праўнукі. Усё-ткі вайна ёсць вайна, і раны яе не так проста загойваюцца нават з цягам часу. Не хацелася б, каб такое калі-небудь паўтарылася...”.***

# Акім КУРАЧКІН: “З ТЫМ І ЖЫВУ...”

Наш запасны полк, што размесціўся ў Віцебску, згодна з загадам кіраўніцтва адыходзіў на ўсход. Я таропка развітаўся з жонкай, двухгадовай дачушкай і выправіўся ў сваю частку.

За першыя месяцы вайны давялося змяніць не адно падраздзяленне, і вось у снежні 1941 года я атрымаў прызначэнне на пасаду памочніка камандзіра роты. А неўзабаве мы апынуліся на Калінінскім фронце.

Было цяжка. Грунтавыя дарогі былі разбітыя. Рамонт рабілі ўручную з дапамогай рыдлёвак і насілак. Да таго ж было кепска з харчаваннем, і людзі, здаралася, па некалькі сутак былі галодныя. Але баявы настрой быў настолькі высокі, што байцы на сваіх плячах выцягвалі машыны з гразі, у ледзяной вадзе ўсталёўвалі апорныя рамы для мастоў. Падчас наступлення нашаму 110-му батальёну трэба было пабудаваць драўляны насціл даўжынёй 16 кіламетраў у накірунку горада Белага. Кіраваць гэтай працай было даручана мне. Нашае падраздзяленне складалася з людзей сталага ўзросту, некаторыя былі яшчэ ўдзельнікамі грамадзянскай вайны. Але нам дапамагалі мясцовыя жыхары, якія рыхтавалі лесаматэрыял для насцілу. Працаваць даводзілася ў надзвычай цяжкіх умовах. У многіх на плячах былі раны, з якіх сачылася кроў, вопратка і абутак не паспявалі прасыхаць. Я працаваў нароўні з байцамі, і, напэўна, гэта прымушала людзей не здавацца. Але трэція суткі мы былі без ежы... Я паслаў салдата на поле збіраць бульбу ў месцах, вольных ад снегу. Ён выкапаў некалькі мёрзлых клубняў, і мы на вогнішчы смажылі з іх аладкі памерам з 5-капеечную манету. Безумоўна, наесціся з такога харчу было немагчыма. Баец, які працаваў побач са мной, раптам апусціўся на зямлю і вымавіў: “Таварыш лейтэнант, няма больш моцы!”

Што я павінен быў рабіць? Тады я заспяваў сваю любімую песню, у якой былі такія радкі: “По дорогам знакомым, за любимым наркомом мы коней боевых поведём”. Заспяваў і адвярнуўся, каб салдат не заўважыў слёз, што міжволі з'явіліся на вачах. Салдат падняўся, зноў узяў у рукі сякеру і хрыплым голасам сказаў: “З такім камандзірам не шкада і памерці”. Ён ведаў, што я еў тое ж, што і ён. Мне ў той час было каля трыццаці гадоў, а яму — пяцьдзесят два.

Надвячоркам да нас прыехала камісія са штаба фронту. На пытанне прадстаўніка пра тое, колькі пагонных метраў насцілу мы ўкладваем за змену, я адказаў: “Восемдзесят, але будзем укладваць сто”. Той схапіўся за галаву: “Немагчыма!” Заўважу, што норма была тады 8 метраў на аднаго чалавека. Мы добра ведалі сітуацыю на фронце і разумелі значэнне гэтай трасы, бо яна праходзіла па лесе і моцна скарачала шлях да перадавой. Насціл маскіравалі яловымі галінкамі, каб вораг не мог яго заўважыць.



Першымі па нашай трасе прайшлі палкі так званай “сталінскай дывізіі”. Калонам не было канца. А ішоў толькі 1942 год. І тое, што было здзейснена нашым падраздзяленнем, можна смела назваць подзвігам. Трынаццаць месяцаў у найцяжэйшых умовах, пад несупыннымі бамбёжкамі... Але мы працавалі і рухаліся наперад. Батальён паступова пашыраў сферу дзейнасці: ствараліся пункты харчавання і абагрэву для салдат, а таксама пункты тэхнічнай і медыцынскай дапамогі.

Узгадваю вёску Таборышча, праз якую праходзіла мноства людзей і рухаўся аўтатранспарт. Пустыя машыны, што ішлі ў тыл, загружаліся параненымі. У гэтай цяжкай справе нам дапамагалі дзяўчаты з медсанчасці, і гэта саграваля воінаў, нягледзячы на моцныя маразы, падвышала моц духу.

Рухаліся наперад і толькі наперад. Туды, дзе боепрыпасы было немагчыма падвезці на конях альбо машынах, мы неслі іх у мяхах. Неўзабаве горад Белы быў вызвалены нашымі войскамі.

Летам 1943 года наш батальён быў перакінуты на 2-гі Украінскі фронт. Спыніліся ў вёсцы Вялікая Прывалаўка пад Варонежам. Неўзабаве да нас прыбыло папаўненне — дзяўчаты з Варонежскай вобласці. Трэба было ў кароткі тэрмін падрыхтаваць іх да службы, у першую чаргу, да службы рэгулявання руху. Праводзіць заняткі было даручана мне і малодшаму лейтэнанту Сарокіну. Праз два тыдні прыехала камісія. З гэтай нагоды быў наладжаны невялікі парад. З песняй, страявым крокам прайшлі дзяўчаты перад трыбунай. Як жа былі здзіўлены члены камісіі, калі яны даведаліся, што дзяўчаты служаць толькі 16 дзён! Адзін з афіцэраў, памятаю, заўважыў: “Так маршыруюць салдаты на другі год службы”.



Камбату было прапанавана прадставіць нас да ўрадавых узнагарод. Дзяўчат і сапраўды было не пазнаць, яны зрабіліся яшчэ больш прыгожымі і стройнымі. Да гэтай сустрэчы я падрыхтаваў некалькі партрэтаў і плакатаў, што былі ўсталяваны на трасе. Камісія ўхваліла гэтае пачынанне і прапанавала развіваць мастацкае афармленне трасы.

Пасля вызвалення нашымі войскамі Варонежа батальён рухаўся ў складзе 2-га Украінскага фронту ў напрамку Белгарада, Харкава і Палтавы. Украінская зямля, здавалася, уся была спалена. Давялося шмат вандраваць па пыльных дарогах, заваленых разбітай тэхнікай. Мы наступалі, і гэта надавала нам сілы, умацоўвала баявы дух.

Наперадзе — Палтава. Неабходна было падшукаць памяшканне для размяшчэння асабовага саставу паста. На ўскрайку лесу мы ўбачылі вялікі хлеў без даху. Стала вядома: акупанты пагналі людзей усіх узростаў у Германію, а каго не паспелі — зачынілі ў хлеве і падпалілі. Вакол былі ўсталяваны кулямёты. Цагляныя сцены нагадвалі велізарны саркафаг з рэшткамі чалавечых цел. Каля хлява мы сустрэлі выпадкова ацалелага палтаўчаніна, які і распавёў пра зверствы фашыстаў.

Насельніцтва радасна сустракала нас. Людзі са слязамі на вачах паўтаралі: “Дзякаваць Богу, што вы вярнуліся, вы — нашыя ратаўнікі!” На поўдзень ад Крамянчуга мы абслугоўвалі чацвёртую пераправу. Вораг заўважна саслабеў, але працягваў абараняцца. Асабліва гэта адчувалася на Дняпры, калі пераправу бамбілі фашысцкія самалёты. Нашыя дзяўчаты неслі службу бездакорна — я неаднойчы ў гэтым пераконваўся.

Запомніўся такі выпадак: падчас праверкі паста ў цэнтры пераправы раптоўна наляцелі бамбардзіроўшчыкі. Давялося схавацца ва ўкрыцці. “Як добра, што мы паспелі!”, — радасна сказала дзяжурная. Але насціл не абараняў ад бомбаў, ён ратаваў толькі ад дробных асколкаў. “Юнкерсы” тройчы паварочвалі назад. Можна ўявіць сабе, колькі бомбаў было скінута на пераправу. На некаторы час усё супакоілася, але мы апынуліся, нібыта на востраве: пантоны каля нас былі цалкам разбураны. Так праходзіла наша служба на Дняпры.

Узгадваю выпадак, які адбыўся ў Кіраваградзе. Адразу пасля налёту мы ўбачылі вартавога. Ён стаяў ля брамкі дома, трымаючы ў руцэ стрэльбу без прыклада. Шапка і шынель былі падраныя. Аказалася, бомба невялікага калібру ўпала непадалёк ад яго, разарвалася на паверхні мёрзлай зямлі і пабіла асколкамі вокны і фасад дома. А салдат ацалеў!

Мы працягвалі рухацца на захад. Рух на дарогах павялічваўся: войскі ішлі несупынна. Увогуле, трэба зазначыць, што рэгуляванне руху практычна не існавала. Здараліся выпадкі, што транспарт накіроўвалі ў адваротны бок. Тады паўстала пытанне аб стварэнні адзінай тэхнікі рэгулявання.

Начальнік дарожнага ўпраўлення фронту палкоўнік Усянок, праверыўшы распрацаваную мной тэхніку рэгулявання, якая ўжо выкарыстоўвалася ў нашым батальёне, даручыў мне адлюстраваць гэта ў малюнках. Я зрабіў гэта за вельмі кароткі тэрмін.

У 1943 годзе на нарадзе прадстаўнікоў усіх франтоў у Жытоміры была зацверджана распрацаваная мной тэхніка рэгулявання — адзіная для ўсіх франтоў. Згодна з загадам па 2-ім Украінскім фронце я правёў семінар з інспектарамі адпаведных падраздзяленняў, а таксама некалькі практычных заняткаў па тэхніцы рэгулявання. Былі арганізаваны месячныя курсы, на якіх займаліся больш за 100 дзяўчат. Прадстаўнікам фронту была прадэманстравана новая тэхніка рэгулявання. Ацэнка была — выдатна.

А неўзабаве наш батальён уступіў на тэрыторыю Малдавіі. Функцыі нашы заставаліся ранейшымі: рамонт грунтавых дарог, рэгуляванне руху, стварэнне і арганізацыя беспералыннага прасоўвання нашых войскаў.

Мне запомніўся выпадак у малдаўскім сяле Шалданешты, дзе я быў прызначаны камендантам. Камандзір часткі вырашыў накарміць салдат. На ўскрайку сяла, у якім размесціліся салдаты, была алейня, дзе можна было ўзяць алею. Аднак лейтэнант інтэнданцкай службы заявіў: “Без загаду не дам ні грама!” Не дапамаглі і пагрозы камандзіра сілай забраць алей. Нарэшце дамовіліся звярнуцца да каменданта.



*А.Курачкін. Франтавыя замалёўкі. Калінінскі фронт. 1942 г.*

Камендатура месцілася ў памяшканні сельсавета. Алейня была разбурана, але ўдалося часткова ўзнавіць адзін прэс. Але ж я не меў права загадваць, бо вартавога можа адпусціць толькі той, хто паставіў яго на пост. Лейтэнант не пагадзіўся са мною і запатрабаваў паведаміць пра гэта ва ўпраўленне фронту.

Сітуацыя абвастралася. Я прапанаваў: “Праз два-тры дні алейня будзе працаваць у дзве змены. Мы кампенсуем вымушаныя страты, а цяпер трэба накарміць салдат. Потым разбярэмся, хто з нас мае рацыю. Я бяру адказнасць на сябе”. Афіцэры кінулі спрачацца, абняліся, а падпалкоўнік сказаў: “Вы, таварыш старшы лейтэнант, хаця і малады, але правільна арыентуецеся ў сітуацыі”.

Праз некалькі хвілін камандзір ужо аддаваў адпаведныя загады падначаленым. Кухары замітусіліся каля кухні. Нехта завёў патэфон. Карацей, настрой ва ўсіх узняўся. А мы паселі на коней і паехалі ў суседнюю вёску, дзе ў мяне была запланавана сустрэча з мясцовымі ўладамі. У сельсавеце нас сустрэлі гасцінна, накармілі вячэрай, уладкавалі на ноч.

На золку, добра паснедаўшы, мы выправіліся ў сяло Шалданешты. Калі мы апынуліся на ўзгорку, адкуль быў бачны ўвесь далягляд, з'явілася барвовае сонца. Чуліся артылерыйскія стрэлы. На фоне чыстага неба вершнікі нагадалі мне карціну Васняцова “Тры волаты”...

Перад намі — Румынія. Першы горад — Стэфанешты, дзе мы абсталявалі кантрольна-прапускны пункт. Хутка ўчастак, які абслугоўваў наш 110-ты батальён па маршруце Стэфанешты — Ясы, быў прыведзены ў нармальны стан. Акрамя гэтага, мы аформілі яго плакатамі, транспарантамі, лозунгамі. Паставілі дарожныя сігнальныя знакі і шыльды. Паводле стану дарогі, тэхніцы рэгулявання і мастацкім афармленні 110-ты батальён заняў першае месца па фронце. Некаторыя байцы атрымалі ўрадавыя ўзнагароды.

Батальён рыхтаваўся да наступлення на Ясы. 18 жніўня на падставе загаду ад 5 жніўня 1944 года некалькім афіцэрам батальёна, у тым ліку і мне, было нададзена званне капітана. А 22-23 жніўня пачалося наступленне. Потым — Бухарэст. Да таго часу мы былі перададзены 4-й Румынскай арміі, што знаходзілася на правым флангу 2-га Украінскага фронту. Пазней, ужо на тэрыторыі Чэхаславакіі, наш батальён расфармавалі. Але мы паспелі стварыць альбом гісторыі часці. Вялікую ўвагу я надаваў ілюстрацыям, нават выдаткаваў на гэта 1200 крон з уласных грошай. Фотакарткі я падарыў усім байцам батальёна.

Потым, згодна з загадам камандавання, я быў накіраваны ў аддзел кадраў галоўнага дарожнага ўпраўлення. У ліпені 1945 года удзельнічаў у будаўніцтве Галоўнага ўпраўлення шасэйных дарог НКУС СССР у Баранавічах. Напрыканцы 1946 года быў дэмабілізаваны з Савецкай Арміі.

Вельмі цяжка было адразу пачаць творчую дзейнасць. Спачатку працаваў выкладчыкам чарчэння і малявання ў школах Слоніма, адначасова займаючыся афарміцельскай дзейнасцю. Калі ў 1965 годзе ў цэнтры Слоніма быў усталяваны створаны мной помнік савецкім воінам, якія загінулі пры вызваленні горада, я адчуў, што аддаў толькі малую частку належнага сваім загінуўшым сябрам-таварышам. І што да скону свайго веку не павінен развітвацца з гэтай тэмай — тэмай подзвігу народа ў гады Вялікай Айчыннай. З тым і жыву...



*А.Курачкін. Папаўненне прыбыло. 2-гі Украінскі фронт. 1943 г.*

ЯН ТАПАРОЎСКІ

# СПРАВА АБ ЗАБОЙСТВЕ ІЕГУДЫ ПЭНА



Іегуда Пэн.

*(Працяг. Пачатак у "Культуры" ад 10.10.98 г. № 39.)*

**Анатоль Віктараў**, праваабаронца, юрыст "Яўрэйскага мемарыяла" (Ізраіль), былы кіраўнік юрыдычнай групы таварыства "Мемарыял" (Расія):

*"Першае, што кідаецца ў вочы пры чытанні апублікаваных следчых матэрыялаў і абвінаваўчага заключэння па "Справе Пэна", — гэта адсутнасць аб'ектыўных доказаў адносна яго забойцы (пры версіі забойства групай сваякоў). Вядома, бываюць выпадкі, калі вопытны забойца не пакідае слядоў, прыгодных для крыміналістычнага аналізу, але дадзеная справа зусім не гэтай катэгорыі. Абвінавачаныя судзімасцяў у мінулым не мелі (акрамя бацькі — Файнштэйна Рувіма, які быў асуджаны на шэсць месяцаў умоўна за вынас штаноў з роднага завода. —* **Я.Т.***). На месцы злачынства знойдзена маса слядоў: крывавыя плямы, нож, сякерка, якімі і было здзейснена забойства. Для крыміналіста самай сярэдняй рукі тут вялізнае поле для нескладанай працы: дактыласкапія, вызначэнне па канфігурацыі крывавых плям сілы ўдара, росту забойцы, ступені яго вопытнасці ў "мокрай" справе і г.д. Па гэтых дадзеных можна было па меншай меры выключыць з ліку падазраваемых у злачынстве шэраг асоб, аднак такі аналіз не быў зроблены, і гэта, па ўсёй бачнасці, нездарма. Аналіз абвергнуў бы версію следства, якая выбрала адзінадзіны шлях — прызнанне падазраваемых. Савецкая тэорыя крымінальнага права давала следству і суду магчымасць грунтавацца на гэтай "царыцы доказаў", а таксама забяспечвала права выпускаць гэту "царыцу" на сцэну пасля закулісных катаванняў абвінавачаных. Тут заўважаюцца палітычныя норавы эпохі, якія ствараюць шырокія магчымасці для самавольства ўлады. Таму некалькі наіўна аналізаваць гэту справу з класічных прававых пазіцый. Яны былі адмецены яшчэ Леніным, а пры Сталіне — яго верным вучні — любая крымінальная справа вырашалася паводле самавольства суддзяў і тых органаў, якія над імі стаялі. Права не было — а была толькі пэўная прававая маскіроўка. Пагэтаму задача знайсці сапраўдных злачынцаў праз 60 гадоў, маючы перад вачамі толькі сфальсіфікаваны матэрыял, надзвычай цяжкая, таксама нялёгка вызначыць па гэтых дакументах і матывы забойства мастака.*

*Асмелюся выказаць сякія-такія меркаванні. Першае: тое, што "рабаўнікі і забойцы" не знялі карціны са сцен у доме Пэна, што-кольвечы гаворыць. Напрыклад, пра тое, што калі б забівалі сваякі, то яны свабодна маглі б гэтыя карціны зняць (тым больш, што іх і асудзілі за забойства з мэтаю завалодаць грошамі і маёмасцю забітага. Але ў абвінаваўчым заключэнні не прыводзіцца доказаў, што ў доме "забойцаў" знойдзена хоць адна крадзеная карціна). Наступная рэалізацыя карцін сваякамі (калі б яны занеслі іх дамоў) наўрад ці выклікала б якія нараканні ў адрас апошніх, таму што па-сваяцку карціны маглі б быць перададзены ўжо Бог ведае калі. Але калі "забойцамі" былі работнікі якіх-небудзь дзяржаўных органаў, то для іх рэалізацыя такіх карцін, асабліва ва ўмовах, калі ўсякі прыватны гандаль не існаваў, была б немагчымай справай, — гэтым яны б сябе адразу выкрылі. Другое: трэба мець на ўвазе і іншыя матывы забойства. Напрыклад, грашовыя. Але гэты матыў, як мы бачым з пратакола агляду месца злачынства і абвінаваўчага заключэння, не вельмі пацвярджаецца: грошы і ашчадкніжкі засталіся ляжаць у шуфлядзе стала".*

### КАМЕНТАРЫЙ СПЕЦЫЯЛІСТА

**Лея Словін**, адвакат, Іерусалім:

*"Прыгавор суда ўражвае сваёй агульнай непісьменнасцю. Нават не юрыст, а хоць трохі інтэлігентны чалавек напісаў бы гэты дакумент больш пісьменна. Ён уражвае сваім юрыдычным непрафесіяналізмам. Калі б не назва "Прыгавор", то любы юрыст, чытаючы гэты дакумент, мог прыняць яго за абвінаваўчае заключэнне, таму што складзены ён не як патрабуе прыгавор, а як абвінаваўчае заключэнне. Але нават у якасці такога ён усё адно напісаны непрафесійна. У такіх дакументах абавязкова павінна быць выдзелена — з пункта гледжання факталогіі — канкрэтнае абвінавачанне кожнаму асобнаму чалавеку: што менавіта ён зрабіў. А ў дадзеным дакуменце гэтага няма. Няма і апісання таго, як адбывалася злачынства. Ёсць толькі канстатацыя: брат і сястра — Абрам і Неха з дапамогаю сякеркі і нажа забілі мастака Пэна. Як гэта праходзіла: невядома. З дакумента не ясная і пазіцыя абароны. Калі суд не прымае пазіцыю абароны, гэта яго права. Але ён павінен зафіксаваць гэтую пазіцыю і растлумачыць, па якіх прычынах яна — гэта пазіцыя — у ім адхіляецца. А інакш ствараецца ўражанне, што адвакатаў на судзе не было. Але ж яны былі!*

*З дакумента відаць, што падследныя адмаўлялі сваю віну. Гэта пацвярджае радок, дзе гаворыцца, што суд ім не верыць, бо тое, што яны казалі на следстве, абсалютна дакладна супадае з абставінамі. Гэта страшэнная па сваёй непісьменнасці фраза. У пратаколе варта было сказаць, што калі б абвінавачаныя зрабілі самаабгавор, то яны не маглі б ведаць таго і таго, яны не маглі б паказаць на такія і такія прыватнасці, дэталі, якія маглі быць вядомыя толькі чалавеку, які гэта зрабіў, і гэтак далей.*

*Цяпер аб рэчавых доказах, на якія спасылаецца суд: сякерка і нож. Рэчавыя доказы могуць сведчыць супраць абвінавачаных у тым выпадку, калі яны — у дадзеным выпадку сякерка і нож — належаць абвінавачаным. Напрыклад: гэта іх нож, гэта іх сякерка. Або прылады забойства яны прынеслі з сабой. З пратакола не ясна, чые гэта "прылады". Можа быць, гэтыя сякерка ці нож выкарыстоўваліся ў кватэры ахвяры, і любы,хто там знаходзіўся, мог імі пакарыстацца. І здзейсніць злачынства. Сам факт выяўлення прылад злачынства яшчэ не даказвае, што віноўныя гэтыя — канкрэтныя — абвінавачаныя.*

*І пра карціны. У пратаколе ёсць сведчанні аб адукацыі і сацыяльным становішчы абвінавачаных. З гэтага можна зрабіць выснову, што яны ў большасці сваёй людзі малаадукаваныя. Адсюль зусім лагічна памеркаваць, што яны не разумелі каштоўнасці карцін, не ведалі,хто такія карціны калекцыяніруе і каму можна іх прадаць. Больш за тое, з прыгавору відаць, што ўсе карціны апісаны камісіяй, пагэтаму пры такіх абставінах ісці на забойства дзеля карцін ці проста спрабаваць іх украсці — гэта ўсё адно, што ўзяць карціны і несці іх проста ў міліцыю.*



*У доме І. Пэна.*
*Пётр Явіч прадстаўляе карціны настаўніка (30-я гг.)*

*Цяпер пра грошы. У прыгаворы не сказана, колькі грошай укралі, колькі грошай знайшлі ў кватэры забітага, колькі грошай знайшлі ў Леі, дзе гэтыя грошы былі ў яе схаваныя, што яна гаварыла аб паходжанні гэтых грошай... Лея ж адмаўляе віну, значыць, у пратаколе абавязкова павінны былі зафіксаваць яе тлумачэнні з нагоды паходжання знойдзеных у яе грошай. Чаму важна знаць, пра якую суму ідзе размова? Калі гэта мізэрная сума, то зусім магчыма, што яна магла быць у гэтай рабочай сям'і.*

*Мы ведаем пра тое, што Пэн жыў бедна, а ці была ў яго наогул вялікая сума грошай? Чаму рабаўнікі не ўзялі ўсе грошы, якія выявілі? Навошта большую частку пакінулі, калі ўжо ўсё адно — абрабавалі і зарэзалі?*

*Абрам і Неха сцвярджалі, што калі яны адыходзілі ад Пэна, там заставаўся старонні чалавек. Але ў пратаколе сказана, што гэта супярэчыць паказанням якойсьці Самсонавай. Хто такая Самсонава, што менавіта яна паказала на судзе, чаму няма спасылкі на гэта ў прыгаворы?*

*Гэты дакумент — прыгавор суда — да таго непісьменны (па ўсіх артыкулах), што калі б ён трапіў у любую касацыйную інстанцыю любой краіны, то адно толькі прачытанне гэтага прыгавору пацягнула б за сабой яго адмену.*

### АБ ЧЫМ МАЎЧАЦЬ ПРАТАКОЛЫ

У ходзе судовага разбору было "пацверджана" абвінаваўчае заключэнне следства. Ствараецца ўражанне, што падчас суда разглядалася не "справа аб забойстве", а "справа аб крадзяжы" — таму, відаць, увесь час падкрэслівалася, што члены сям'і Файнштэйн сістэматычна абкрадвалі мастака Пэна, выносячы грошы, карціны, эцюды. Меўся на ўвазе Залман, які ў гэты час жыў у Ленінградзе, і Хаім-Шлёма, які падчас забойства Пэна знаходзіўся ў шэрагах РККА, але нават іх прызнанні ў крадзяжы, як і прызнанні другіх абвінавачаных на вочных стаўках у тым, што яны здзейснілі забойства, не пацверджаны ніякімі рэчавымі доказамі. Напрыклад, нідзе не прыводзіцца той факт, што ўкрадзеныя Хаімам-Шлёмай карціны знойдзены ў яго доме ці ў тайніках ці адабраны ў тых, каму ён гэтыя карціны мог прадаць. Не знойдзены і карціны ў кватэры Залмана ў Ленінградзе. З гэтага можна зрабіць вывад, што і гэта прызнанне абвінавачаных — чысты самаабгавор.

Некалькі слоў аб крыві. На месцы злачынства кроў была ўсюды — на падлозе, сценах, рэчах і на прыладах забойства. Пры такой яе вялікай колькасці дзіўна, што ні кроплі крыві не выявілі на адзенні Нехі або Абрама, якія "паваліли Пэна на кушэтку і там жа зарэзалі". Аб слядах крыві на адзенні "забойцаў" нічога не паведамляецца — чаму? А можа іх не было?! Любое следства схапілася б за кроплю крыві на адзенні злачынцы, будзь яна выяўлена. Але тут поўнае маўчанне. Не, адна кропля крыві ўсё ж прамільгнула. Яе выявілі на насоўцы Абрама. Гэту насоўку знайшлі ў час вобыску. Абрам растлумачыў, што гэта след крыві, калі ў яго яшчэ ў 1936 годзе ішла носам кроў. І больш аб гэтай кроплі ні слова! Але ж судмедэксперт Мурашка мог бы вызначыць, чыя гэта кроў!

Пры чытанні пратакола судовага разбору ўзнікае мноства пытанняў: навошта Файнштэйнам трэба было забіваць Пэна, калі ён, па паказаннях абвінавачаных і грашовых пераводах, што захаваліся ў яго доме, увесь час клапаціўся пра сваіх пляменніц? Ён забяспечваў іх грашыма — па 100-200 рублёў, рабіў падарункі. Забіваючы яго, сваякі павінны былі разумець, што ніколі ўжо ні капейкі ад яго не атрымаюць. Ды і карціны ўжо не будзе ў каго красці... Іншымі словамі, навошта трэба было забіваць "дойную карову"? Але, калі яны ўжо рашыліся на забойства, дык чаму ўзялі толькі 600 рублёў, а большую частку грошай забітага пакінулі ў шуфлядзе стала?

У сувязі з гэтым заслугоўваюць увагі паказанні сведкі Златкінай. Яна, што наведвала мастака на працягу апошніх 8—9 гадоў і двойчы яму пазіравала, называе імёны тых, хто краў у мастака (Давід Краўчынскі, работніца Юлька). Заўважце, што сярод гэтых імён няма ніводнага з падследных — сям'і Файнштэйн.

Як сцвярджае следства, Неха і Абрам знайшлі ў Пэна грошы, а потым пакінулі частку іх у стале. Але ж тады на грашах павінны былі застацца адбіткі пальцаў злачынцаў! Чаму гэтыя адбіткі не прыкладзены да абвінаваўчага заключэння ці да прыгавора? Мей следства гэтыя доказы — не трэба было агарод гарадзіць. І яшчэ. У паказанні гаворыцца, што Абрам выявіў грошы ў мяшэчку на целе Пэна і выцягнуў іх. Куды ж гэты мяшэчак дзяваўся? Але пра мяшэчак нідзе больш не ўзгадваецца.

Цяпер пра 600 рублёў, выяўленых у дровах. З паказанняў Абрама ясна, што пры першым вобыску, калі яшчэ ўся сям'я знаходзілася дома, ён схаваў гэтыя грошы, каб НКВД не забраў з дому ўсе грошы. Учынак зусім лагічны. Але на допытах, калі ў Абрама выпытвалі (а маглі і катаваць), дзе ён хаваў "нарабаванае ў Пэна", ён не вытрымаў і прызнаўся: вось як знайшлі гэтыя 600 рублёў!

Разгледзім цяпер фінансавае становішча сям'і. Па-першае, уся сям'я жыла ў адным доме і вяла агульную гаспадарку. Амаль усе члены сям'і працавалі, за выключэннем Леі (55 гадоў, хатняя гаспадыня, па ўсёй бачнасці, пенсіянерка) і Нехі — яна была студэнткай медтэхнікума і хутчэй за ўсё атрымоўвала стыпендыю. Глава сям'і атрымоўваў 255 рублёў. Нельга сказаць, што тыя грошы, якія ў іх знайшлі, не з'яўляюцца іх асабістымі зберажэннямі.

У той злашчасны вечар Лея дала Міхаілу Аліфсону энную суму, каб той купіў абноўку для Нехі ў Мінску, дзе магазінаў больш і адзенне лепшае. Вось гэтыя якраз грошы і прыпісалі Аліфсону як крадзеныя, ператварыўшы яго ў хаўрусніка злачынства. Судовая калегія не прыняла да ўвагі паказанні абвінавачаных, што на допытах яны абгаварылі сябе. Калегія спаслалася на тое, што паказанні абвінавачаных пацвярджаюцца паказаннямі сведкаў. Якіх менавіта? Няўжо тых, што самі знаходзіліся пад следствам? У такім выпадку паказанні гэтых абвінавачаных не з'яўляюцца паказаннямі сведкаў.

Разгледзім адно з такіх паказанняў, тым больш, што прозвішча таго, хто даў яго, згадваецца ў прыгаворы: "Што ж тычыцца прад'яўленага абвінавачання да абвінавачанага АЛІФСОНА Міхаіла і САЛАМОНІК Мордхая, суд лічыць недаказаным, прымаючы да ўвагі, што АЛІФСОН, з'яўляючыся пастаронні́м чалавекам да абвін. ФАЙНШТЭЙН і ён ні прама ні ўскосна ўдзелу не прымаў, *тым больш яго паказанні на судзе пацвярджаюць здзяйсненні злачынства з боку абвінавачаных, Файнштэйнаў па іх паводзінах* (курсіў мой. — **Я.Т.**).

Што ж гэта за паказанні? Няўжо тыя самыя — аб пальчатках, пад якімі Неха хавала свае "акрываўленыя рукі"?

Падняўшы пратаколы калегіі Вярхоўнага суда БССР, чытаем паказанні Міхаіла Аліфсона, які бачыў Неху ў той дзень толькі пасля "злачынства", асабліва тую частку яго паказанняў, на якую суд, па ўсёй бачнасці, абапіраецца (прыводзіцца ў маім перакладзе на беларускую).

*"У 6 гадзін вечара я пайшоў да Нехі. Дома была маці Нехі, Лея, і сястра Рыва, ці быў бацька, не ведаю, я яго не бачыў. На маё пытанне да Рывы, дзе Неха, яна сказала, што Неха і Абрам пайшлі да Пэна, а маці Нехі мяне затрымала і расказала, што Абрам мае бюлетэнь у сувязі з пабоямі, — гэта мяне здзівіла і я выказаў сваё здзіўленне: "Як гэта хворы чалавек пайшоў?!" На што маці Нехі заявіла: ён адчувае сябе лепш.*

*Праз нейкі час званок у дзверы, на які маці Нехі пабегла адчыняць, за ёй Рыва, на кухні яны затрымаліся. Першым увайшоў Абрам, на мой паклон кіўнуў галавой. Нічога не адказаў. За ім увайшла Неха ў залу, апранутая ў паліто. Павітаўшыся ў пальчатках на руках, на што я ёй зрабіў заўвагу. Неха сказала, што "чаму ты не прыйшоў? Пэн спадзяваўся".* (Трэба растлумачыць гэту фразу: Міхаіл Аліфсон быў студэнтам апошняга курса факультэта журналістыкі і прыехаў у Віцебск не толькі для таго, каб пабыць дома, але і з мэтаю напісаць артыкул пра мастака Пэна, пра што Пэну было вядома. — **Я.Т.**).

*На працягу ўсяго вечара я Абрама не бачыў, маці Лея ў сталовую ўвайшла пазней, уносячы самавар. Запрасіла мяне піць чай. За стол селі піць чай маці і Неха, а таксама я. Рыва пайшла спаць. Напіўшыся чаю, маці пайшла ў залу, адкуль не вярталася. У сталовай засталіся я і Неха, якая прыбірала са стала, а я чытаў газеты, на мае жарты Неха нічога не адказвала. Увесь вечар гэтага дня была маўклівай. Пра Пэна ў мяне з ёю ніякіх размоў не было. Дамоў я вярнуўся а першай гадзіне ночы".*

Вось якія паказанні суд аднёс да тых, якія пацвярджаюць віноўнасць абвінавачаных Файнштэйнаў па іх паводзінах: адсутнасць хворага дома, калі ў яго ёсць бюлетэнь, падазронае знаходжанне маці Рывы на кухні, Неха паціскае руку, не зняўшы пальчатак, а потым увесь вечар на жарты Аліфсона адказвае маўчаннем.

*(Заканчэнне будзе ў наступным нумары.)*

*Замест кропкі*

***"Чытальная зала" тыднёвіка атрымала апошнім часам нечакана цікавае і значнае папаўненне. Рознымі шляхамі прыйшло ледзь не адразу ў рэдакцыю некалькі свежавыдадзеных кніг — самых розных па змесце, жанравай прыналежнасці і грамадскім прызначэнні. Сярод іх — "Святы і абрады беларусаў" Васіля Ліцьвінкі і "У вянок Адаму Міцкевічу" (выдавецтва "Беларусь"), "Ахвярую сваім "я"..." Радзіма Гарэцкага (выдавецтва "Беларуская навука"), энцыклапедычны даведнік "Беларускі Саюз мастакоў" (выдавецкае ТАА "Кавалер Паблішэрс"), "Язык и религия" Ніны Мячкоўскай (маскоўскае выдавецтва "Гранд"), "Як той казаў" Марціна Коўзкага (выдавецтва "Мастацкая літаратура"), а таксама першы (!) нумар літаратурна-мастацкага і беларусазнаўчага часопіса "Тэрмапілы" (выданне Беластоцкага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", Польшча).***

***Прадстаўляем коратка чытачу гэтыя кніжныя навінкі.***




## АХВЯРУЮ СВАІМ "Я"...

Гэта гісторыка-дакументальная кніга выйшла ў серыі "Людзі беларускай навукі" і прысвечана жыццю і дзейнасці, драматычнаму лёсу слаўных сыноў свайго народа Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх. "Перад намі кніга, якую даўно і з нецярплівасцю чакала беларуская грамадскасць, нацыянальна свядомая інтэлігенцыя, — піша ў прадмове да выдання яе навуковы рэдактар, член-карэспандэнт НАН, віцэ-прэзідэнт Фонду імя братоў Гарэцкіх Міхась Мушынскі. — Чакалі шматлікія прыхільнікі таленту выдатнага мастака слова, аднаго з заснавальнікаў нацыянальнай прозы, класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. Чакалі і тыя, хто ведаў або меў гонар працаваць побач са славутым беларускім вучоным, шчырым сынам маці-Беларусі Гаўрылам Гарэцкім, даследаванні якога па геалогіі чацвярцічнага перыяду атрымалі сусветнае прызнанне.

А належыць кніга, — працягвае аўтар прадмовы, — пяру чалавека, які з'яўляецца адным з годных прадаўжальнікаў слыннага роду Гарэцкіх — Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму, вядомаму вучонаму-геолагу, акадэміку, прэзідэнту Фонду братоў Гарэцкіх".

Пра змест кнігі красамоўна гавораць ужо назвы нарысаў і артыкулаў, што ўвайшлі ў яе. Вось яны: "Максім Гарэцкі: карані жыццястойкасці", "Лёс пісьменніка — лёс пакалення", "№ 39: Прыцягнуць да адказнасці", "Справа Максіма Гарэцкага", "Гаўрыла Гарэцкі: "Беларусі патрэбна свая інтэлігенцыя", "Працаваць, не здаючы пазіцый", "Арышт Гаўрылы Гарэцкага" і інш.

## МОВА І РЭЛІГІЯ

Кніга выйшла ў свет у выдавецка-гандлёвым доме "Гранд" (Масква), напісана на рускай мове, але належыць пяру беларускага аўтара Ніны Мячкоўскай — доктара філалагічных навук, прафесара кафедры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства. Аўтара, заўважым, газеты "Культура".

"Язык и религия" — кніга пра адвечныя сувязі моваў і старажытных рэлігій свету (ведычнай, іудаізму, канфуцыянства, будызму, хрысціянства, ісламу). У ёй паказаны асаблівасці рэлігійных зносін у розных культурах, уплыў рэлігіі на гісторыю моваў, фальклору, літаратурных і філалагічных традыцый.

Кніга з'яўляецца, па сутнасці, вучэбным дапаможнікам, адрасаваным студэнтам гуманітарных факультэтаў вышэйшых навучальных установаў і каледжаў. Яна напісана так, каб быць даступнай для спецыяльных курсаў па гісторыі рэлігіі.




## ТЭРМАПІЛЫ

У кароткай прадмове да першага нумара новага часопіса яго заснавальнік і рэдактар Ян Чыквін піша: "Наш беларускі літаратурны дух у Польшчы набывае з гэтым выданнем новыя магчымасці — найперш для публікацый "даўжэйшых" жанраў прозы, эсэ, сцэнічных твораў, крытычных артыкулаў, рэцэнзій. Хочацца спадзявацца, што ад самага пачатку часопісу будзе ўласціва формула адкрытасці ў тым сэнсе, што ён стане месцам сустрэчы для ўсіх, хто хоча творча займацца беларускім прыгожым пісьменствам, беларускаю культураю як у нас, так і па-за межамі Польшчы".

На старонках першага нумара "Тэрмапілаў" надрукаваны творы Янкі Брыля, Ніны Мацяш, Масея Сяднёва, Галіны Твардовіч, Яна Чыквіна, Сакрата Яновіча, а таксама матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, што адбылася на Беласточчыне ў чэрвені г.г. і была прысвечана 40-годдзю літаратурнага аб'яднання "Белавежа".

# ЧЫТАЛЬНАЯ ЗАЛА "К"




## СВЯТЫ І АБРАДЫ БЕЛАРУСАЎ

Гэта — другое, дапоўненае выданне папулярнай працы вядомага фалькларыста, знаўцы беларускай святочна-абрадавай культуры. У кнізе, адрасаванай настаўнікам, выхавацелям дзіцячых садкоў, кіраўнікам фальклорных калектываў і работнікам установаў культуры, падаюцца чатырнаццаць свят і абрадаў беларусаў, многія з якіх — упершыню. Найбольш разгорнута прадстаўлены асноўныя з іх: Вялікдзень, Купалле, Дзяды, Каляды. Даюцца метадычныя парады па наладжванні іх святкавання. Выданне багата ілюстравана фотаздымкамі, якія зроблены непасрэдна ў час правядзення святаў.

Па словах Васіля Ліцьвінкі, жывой крыніцай стварэння кнігі сталі асабістыя ўражанні аўтара з часу дзяцінства і яго непасрэдны ўдзел у святах, яго шматгадовыя навуковыя назіранні над станам сучаснай святочнай культуры беларусаў, праца аўтара падчас падрыхтоўкі фальклорных святочных тэлепраграм "Запрашаем на вячоркі".

## У ВЯНОК АДАМУ МІЦКЕВІЧУ

Невялікі па аб'ёме і фармаце, але з густам аформлены (мастак Мікола Казлоў) зборнік вершаў беларускіх паэтаў, напісаных у розныя часы і прысвечаных Адаму Міцкевічу. Тут змешчаны творы Эдуарда Акуліна, Рыгора Барадуліна, Міхася Башлакова, Дануты Бічэль-Загнетавай, Петруся Броўкі, Веры Вярбы, Ніны Загорскай, Вольгі Іпатавай, Аркадзя Куляшова, Алега Лойкі, Пімена Панчанкі, Язэпа Пушчы, Людмілы Рублеўскай, Міхася Стральцова, Максіма Танка, Станіслава Шушкевіча і інш.




Складальнікам зборніка і аўтарам прадмовы да яго з'яўляецца Іван Карэнда. Змешчаныя ў кнізе каляровыя ілюстрацыі, якія знаёмяць чытача з памятнымі мясцінамі, што звязаныя з імем Адама Міцкевіча, належаць вядомым фотамайстрам Валянціну Ждановічу, Івану Курмановічу і Аляксею Фралову.




## ЯК ТОЙ КАЗАЎ

"Як той казаў" гавораць тады, калі хочуць спаслацца на нешта добра вядомае, знаёмае ўсім, прапісную ісціну. Але ў дадзеным выпадку — гэта толькі мастацкі прыём. Бо аўтар зборніка сатырычных мініяцюр Марцін Коўзкі (псеўданім Міхася Марцінкоўскага) не столькі згадвае "прапісныя ісціны", вядомыя ўсім рэчы, колькі, суадносячы іх з нашым сённяшнім жыццём-быццём, нанова адкрывае іх, асэнсоўвае ва ўдала знойдзенай ім форме сучасныя з'явы і рэаліі.

Імя аўтара кніжкі "Як той казаў", безумоўна, вядомае ўважліваму чытачу. Бо пісьменнік даўно і рэгулярна выступае з падборкамі сваіх дасціпных мініяцюр на старонках газеты "Літаратура і мастацтва". Вось гэтыя якраз творы, дзе "словам цесна, а думкам прасторна", і склалі яго новую кніжку. Прывядзем у якасці прыкладу колькі радкоў. "Адзін гіне за веру, другі нішчыць за веру... Хто, бацюхна, большага варты даверу?" "Прынцып выбіральнасці: і дурная думка прыходзіць у галаву не кожнаму". Альбо: "Я песіміст — пішу і баюся, што не паспею закончыць радок. І аптыміст — пішу ўсё ж!" і гэтак далей.

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ ДАВЕДНІК "БЕЛАРУСКІ САЮЗ МАСТАКОЎ 1938—1998"




Выйшаў у свет якраз да чарговага, 16-га з'езда мастакоў Беларусі, які адбыўся 24 — 26 лістапада.

Даведнік уключае звыш 1200 ілюстраваных артыкулаў на беларускай і англійскай мовах з кароткімі біяграфічна-творчымі звесткамі аб мастаках і мастацтвазнаўцах. Выданне адрасавана ўсім, хто цікавіцца беларускім мастацтвам — жывапісам, скульптурай, графікай, дэкаратыўна-прыкладным, манументальным і афармленчым мастацтвам, сцэнаграфіяй, плакатам.

Аўтары-складальнікі гэтага па-свойму унікальнага даведніка — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, мастацтвазнаўца Б.Крэпак (галоўны рэдактар выдання) і мастацтвазнаўцы Н.Зелянко, М.Паграноўскі і Г.Фатыхава. Мастацкі рэдактар К.Хацяноўскі.



КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ**,
**Арсен ВАНІЦКІ**,
**Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар);
**Анатоль ВЯРЦІНСКІ** (першы намеснік галоўнага рэдактара),
**Валерый ГЕДРОЙЦ**,
**Уладзімір ГІЛЕП**,
**Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ**,
**Аляксей ДУДАРАЎ**,
**Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ**,
**Вольга ІПАТАВА**, **Міхаіл ПТАШУК**,
**Алесь РАЗАНАЎ**,
**Віктар СКОРАБАГАТАЎ**,
**Юрый ЦВЯТКОЎ**, **Леанід ШЧАМЯЛЁЎ**.

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў —
**Надзея БУНЦЭВІЧ**,
**Жанна ВАСАНСКАЯ**,
**Барыс КРЭПАК**,
**Алесь ФІЛІПОВІЧ**,
**Валерый ШЫХАНЦОЎ**
Спецкарэспандэнты:
**Ганна АЛАДАВА**,
**Таццяна КОМАНАВА**,
**Сяргей МІНСКЕВІЧ**,
**Ілля СВІРЫН**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон/факс: (017) 276-94-66

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3221.

Падпісана ў свет 3.12.98. у 18.30.

Замова 7031.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**